*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 8(393) 24 ЛЮТАГА 1999 г.

Да ўвагі сяброў Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

26 сакавіка ў пятніцу, у 16.00 адбудзецца чарговае паседжанне Рэспубліканскай рады Таварыства. Рада разгледзіць пытанні падрыхтоўкі да VI з'езда ТБМ імя Францішка Скарыны.

## Змаганне за ўніверсітэт з навучаннем па-беларуску працягваецца.

Пасля друку ў "Нашым слове" № 4 бланка для збору подпісаў за адкрыццё беларускага універсітэта ў Сакратарыят ТБМ пачаліся паступаць першыя подпісы. Гэта подпісы 54 жыхароў г.Слуцка і 20 грамадзян Беларусі з г.Полацка, 10 жыхароў Жыткавіч і 20 чалавек з Менска.

## Працягваецца падпіска на газету "Наша слова"

Сакратарыят ТБМ падпісаў 20 асобнікаў газеты для школьных бібліятэк г. Вілейкі і Вілейскага раёна.

Сакратарыят ТБМ выпісаў 22 асобнікі газеты для ўсіх вясковых і гарадскіх бібліятэк Мастоўскага раёна на II квартал 1999 года, а таксама для 17 школьных, гарадскіх і вясковых бібліятэк Слаўгарадскага раёна на Магілёўшчыне. Сябры, падтрымайце гэтую ініцыятыву Сакратарыята.

## Аднаўлена дзейнасць арганізацыі ТБМ

У Паставах аднаўлена дзейнасць раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Аднаўленую раённую раду ўзначаліў вядомы змагар за Беларушчыну, рэдактар газеты "Сумежжа" Міхась Гіль.

## Рэдакцыі газеты "Наша слова"

Паважаная рэдакцыя!

Не маючы магчымасці падзякаваць кожнаму, хто павіншаваў мяне асабіста або прыслаў тэлеграмы ў сувязі з маім юбілеем, прашу Вас змясціць маю ўдзячнасць за цёплыя і сяброўскія словы і найлепшыя пажаданні.

**Анатоль Грыцкевіч**
**12 лютага 1999 года.**

## Карані

Анатолю П. Грыцкевічу

Жыццё — лісцё, а памяць — карані.
Мы думаем і бачым каранямі.
І Кронас чарай поўнаю з краямі
Вітае тых, хто прагне глыбіні.
Асеняцца і ападаюць дні.
Гай вечнасці свой смутак бавіць снамі.
Над Курганамі, як над алтарамі,
Дубы трымаюць свечкі цішыні.
Пад зорамі, якім у небе золка,
Мы ўжо, здаецца, некалі былі.
Расце з памкнення і вясёлка й зёлка.
Аднойчы й нашы мроі стануць снамі.
І застануцца цені на зямлі.
Ад нас, калі мы станем каранямі.

*Рыгор Барадулін*
*31 студзеня 1999 г.*

Шаноўныя чытачы, у мінулым нумары мы паабяцалі надрукаваць артыкул сп. Бурдыкі з Полацка, але, нажаль факты прыведзеныя ў ім састарэлі. Мы просім спадара Бурдыку, калі гэта не цяжка, даслаць новы артыкул з фактамі, якія адпавядаюць сённяшняму дню.

## Пікетавалі, каб папярэдзіць пра небяспеку

13 лютага ў Менску а 12 -й гадзіне прайшоў пікет, арганізаваны ТБМ імя Ф.Скарыны, у знак пратэсту супраць спробы ўладаў выкарыстаць маючы адбыцца перапіс насельніцтва дзеля таго, каб сказаць, што такой нацыі як беларусы — не існуе. Аб гэтым сведчыць фармулёўка пытанняў па моўнаму аспекту. Патлумачыць сутнасць пытанняў і будучыя вынікі адказаў імкнуліся ўдзельнікі пікета.

Таму на пікеце асноўнымі лозунгамі былі:
"Няма мовы — няма народа"
"Беларусь — дзе наша мова"
"Перапіс — інструмент русіфікацыі"
"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі. Ф. Багушэвіч" і інш.

Аналагічны пікет меўся адбыцца і ў Лідзе, але лідскія гарадскія ўлады без усялякіх падстаў на тое пікет забаранілі.

## Пінская вандроўка

Па запрашэнні гарадскога таварыства ТБМ г. Пінска, гэты старажытны горад 6 лютага наведалі карэспандэнт газеты "Наша Ніва", беларускі бард Зміцер Бартосік і аўтар гэтых радкоў. Планаваўся таксама выезд пісьменнікаў Уладзіміра Арлова і Міхася Скоблы, але эпідэмія грыпу ў апошні дзень зрабіла іх выцечку немагчымай.

Спачатку мы наведалі адзіную беларускамоўную (дзевяцігадовую) школу ў Пінску (№ 17). Дырэктар школы сп. Валеры Ефімовіч і яго намесніца Лілея Гладышава ветліва сустрэлі нас на ганку школы і прывялі ў залу напоўненую дзетварой з розных класаў. Мы расказалі ім пра дзейнасць ТБМ на Беларусі, пра найбольш цікавыя нумары газет "Наша слова" і "Наша Ніва", пра помнікі гісторыі і архітэктуры Пінска, пра магчымасць паступлення ў Беларускі Універсітэт Культуры, у сценах якога беларуская мова і зараз чужою не пачуваецца. Зміцер Бартосік праспяваў дзецям тузін сваіх песняў на гістарычную, лірычную і гумарыстычную тэмы. Напрыканцы мы раздалі дзецям некалькі нумароў газеты "Наша слова" і падпісныя бланкі на другі квартал гэтага года. Дзеці і настаўнікі пажадалі У. Арлову добрага здароўя і прасілі яго як мага хутчэй да іх прыехаць.

Вечарам у Палацы шахмат і шашак адбылася наша сустрэча з грамадскасцю горада. Жыхары Пінска цікавіліся працай ТБМ, разабралі падпісныя бланкі на "Наша слова" і "Нашу Ніву" з задавальненнем слухалі песні Зм. Бартосіка. Яны зрабілі таксама грашовыя ахвяраванні на дзейнасць гарадской ТБМ, азначылі актыўную працу новага кіраўніка ТБМ г. Пінска Валерыя Савіча. Мы спадзяёмся, што дэлегацыя пінскіх сяброў ТБМ на нашым чарговым з'ездзе будзе шматлікай і прадстаўнічай.

*Алег Трусаў, першы намеснік старшыні ТБМ.*
*г.Менск 7.02.99г.*

## Баранавіцкая "Альтанка"

У Баранавічах выйшаў першы нумар гістарычнага бюлетэня "Альтанка". Ідэя выдання гістарычнага бюлетэня ўзнікла ў цэнтры экалагічных і сацыяльных даследванняў і інфармацыі, калі там назапасілася шмат гістарычных матэрыялаў.

"Неруш-цэнтр", які спачатку арыентаваўся толькі на экалагічныя праграмы зразумеў, што трэба берагчы і памяць.

Замовіць бюлетэнь можна па адрасу:225320, Баранавічы, вул. Фралянкова, 50, ЦЭСДІ "Неруш-цэнтр"




## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Горацкая раённая філія ТБМ | 1 875 000 руб. |
| 2. Суполка № 5 (Ракасоўская) Свіслацкай Рады БНФ | 700 000 руб. |
| 3. Котляр Ядвіга, г. Баранавічы | 200 000 руб. |
| 4. Ярмашэвіч М.С., г. Бярэсце | 400 000 руб. |
| 5. Сям'я Шэршань, г. Менск | 300 000 руб. |
| 6. Працька Алесь Леанідавіч, г. Менск | 5$ |
| 7. Цярэшка Васіль Яўгенавіч, г. Менск | 100 000 руб. |
| 8. Рыгор, г. Менск | 100 000 руб. |
| 9. Ермалаеў Уладзімір Фаміч, г. Менск | 300 000 руб. |
| 10. Малочка Валерый Сямёнавіч, г. Менск | 200 000 руб. |
| 11. Гракаў Генрых Іванавіч, г. Менск | 200 000 руб. |
| 12. Герасімчык Сяргей Мікалаевіч, г. Менск | 80 000 руб. |
| 13. Міщчук Георгій Канстанцінавіч, г. Менск | 100 000руб. |
| 14. Петруковіч Васіль Іванавіч, г. Менск | 200 000 руб. |
| 15. Яўсеня М.М., г. Гародня | 500 000 руб. |
| 11. Махнач Вера, г. Гародня | 500 000 руб. |
| 12. Януковіч Іван Язэпавіч, г. Полацк | 200 000 руб. |

Беларускі Дзяржаўны Тэхналагічны Універсітэт (Менск):

| | |
|---|---|
| 1. Ражкоў Леанід Мікалаевіч | 50 000 руб. |
| 2. Клімчык Генадзь Якаўлевіч | 50 000 руб. |
| 3. Роўкач Андрэй Іванавіч | 20 000 руб. |
| 4. Лабоха Канстанцін Валянцінавіч | 20 000 руб. |
| 5. Мукураў Леанід Іванавіч | 5 000 руб. |
| 6. Гуняжэнка І.У. | 5 000 руб. |
| 7. Лысеня Н.К. | 5 000 руб. |
| 8. Грыгор'еў В.П. | 5 000 руб. |
| 9. Петрашэвіч А.А. - | 5 000 руб. |
| 10. Рыктэр І.Э. | 10 000 руб. |
| 11. Пятоў Я.Г. | 15 000 руб. |
| 12. Тарайкоўскі | 10 000 руб. |
| 13. Дзямід Мікола Пятровіч | 100 000 руб. |
| 14. Малашонак Ірына Яўгенаўна | 50 000 руб. |
| 15. Ашуйка Валеры Аркадзевіч | 20 000 руб. |
| 16. Скарабагатая Алена Іванаўна | 50 000 руб. |
| 17. Гусева Вольга Мікалаеўна | 100 000 руб. |
| 18. Жукоўская Тэрэза Уладз. | 100 000 руб. |
| 19. Кузьміч Вольга Алякс. | 100 000 руб. |
| 20. Казлякова Тамара Алякс. | 100 000 руб. |
| 21.Швед Генадзь Філарэтавіч | 100 000 руб. |
| 22.Лявіцкая Раіса Мікалаеўна | 100 000 руб. |
| 23.Казлоўская Галіна Вікт. | 50 000 руб. |
| 24.Міксюк Рэгіна Вячаславаўна | 100 000 руб. |
| 25.Федарцова Тамара Мікалаеўна | 100 000 руб. |
| 26.Савіцкая Надзея Яўсееўна | 100 000 руб. |

| | |
|---|---|
| 1.Е.А.А., Менск | 1 000 000 руб. |
| 2.М.І.П., Менск | 400 000 руб. |
| 3.Ц.І.І., Менск | 500 000 руб. |
| 4.Верамей У.І., Менск | 1 000 000 руб. |
| 5.Кучанкоў Пётр Міхайлавіч, Гародня | 200 000 руб. |
| 6.Лукашук М.П.,Бярэсце | 200 000 руб. |
| 7.Шатохін Уладзімір, г. Пінск | 5 800 000 руб. |
| 8.Анісава Клаўдзія, п. Свіслач, Пух. р-н | 100 000 руб. |

## Шаноўныя сябры!

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны выказвае Вам шчырую падзяку за жаданне аказаць фінансавую дапамогу Таварыству.

Паведамляем усім прыхільнікам беларускага слова, што вы можаце перасылаць свае ахвяраванні праз любое аддзяленне ашчаднага банка "Беларусбанк"(камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Назначэнне плацяжа: "Дабраахвотныя ахвяраванні на дзейнасць ТБМ".

Разліковы рахунак **№ 3015212330014** код **764** у Гардырэкцыі "Белбізнесбанка" г.Менска. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11, 213-43-52.

**Сакратарыят ТБМ**

**Міхаліна Ваўчок**

# Надзея на сям'ю

Беларусы апынуліся перад фактам знішчэння беларускай мовы ўладаю: увядзенне т.зв. двухмоўя, зачыняюцца беларускія класы, няма ніводнай беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы, справаводства — толькі па-расейску, на вуліцах Менска за адно тое, што размаўляеш па-беларуску, можаш ад міліцыянта і палкай па галаве атрымаць, а ў горшым выпадку — трапіць ў міліцэйскую кутузку. Прыкладаў таму шмат, яны знайшлі адлюстраванне ў незалежным друку.

У гэтай цяжкай сітуацыі нямала людзей церпяць душою ад свайго нацыянальнага прыніжэння, а як і што рабіць для адраджэння беларускасці ў нашым краі або не ведаюць, або баяцца ўлады. Не будзем вінаваціць іх у баязліўстве, адсутнасці годнасці і нацыянальнай свядомасці, а лепш дапаможам. З'явіцца свядомасць, годнасць — знікне страх.

Успомнім, як у свой час чэхі "ціхім супрацівам" ішлі да нацыянальнага адраджэння.

1. Кожная сям'я ў нашых дэмаграфічных умовах, калі нараджаецца двое, а памірае трое (ці больш?), павінна імкнуцца мець не менш, чым двое дзяцей. Каб не зводзіўся род бацькі і род маці.

2. Давайце дзецям беларускія імёны, прычым, патрабуйце, каб пры рэгістрацыі ў пасведчанні аб нараджэнні і па-расейску было запісана імя без змены, г.зн. так как, як і па-беларуску: Алена і па-расейску Алена, а не Елена, Ян, а не Иван, Міхал, а не Михаил, Витавт, а не Викентий ці Виктор, Ганна, а не Анна. Марыся, а не Мария і т.д.п. Не хвалюйцеся лішне, калі ў кагосьці гэта выкліча здзіўленне або незадавальненне. Ужо праз некалькі дзён вы зрзумееце, што іншага імені вашаму немаўляці і не магло быць. Вырастуць вашы дзеці і будуць удзячныя вам. Увайшлі ж ужо ў нашы сем'і і лічацца вельмі прыгожымі імёны Алесь — Алеся, Ян — Яна, Александрына — Алёкса, Вітаўт, Кася і інш.

3. Калі муж і жонка належаць да розных канфесіяў, хрысціце дзіця ў грэка-каталіцкіх цэрквах. Гэтым пазбегнеце сямейных спрэчак (каталік — праваслаўны), а вашы дзеці будуць маліцца ў сваіх беларускіх храмах.

4. Закалыхваючы дзіця, спявайце яму беларускія калыханкі, якія вы чулі ад сваіх бабуляў, або проста любыя меладычныя беларускія песні, хоць і пра каханне. Гэта адкладваецца на ўсё жыццё, а пазней не будзе праблемаў з мовай. Уключайце па тэлевізару беларускую калыханку.

5. Расказвайце ці чытайце сваім дзецям беларускія казкі або казкі іншых народаў у перакладзе на беларускую мову. І чым раней вы пачнеце гэта рабіць, тым лепш.

6. Няхай у пакоі, дзе спіць ці гуляе ваша дзіця, на сцяне, ля абраза ці ў якім іншым месцы будзе штось з беларускага арнаменту — вышыты даўнейшы ручнік, тканы пояс ці што іншае. У ім голас продкаў, гаючая аўра духоўнага Космасу нацыі. Раю пачытаць надзвычай цікавыя кнігі Янкі Крука "Услед за сонцам" і "Да вытокаў народнай культуры", з якіх вы зразумееце, што ўзоры і колеры вышытага пра-прабабуляй ручніка дапамогуць захаванню спакою і здароўя ў вашай сям'і.

7. Размаўляйце з дзецьмі па-беларуску. Нават калі адзін з бацькоў не валодае беларускай мовай, праблема можа вырашыцца: дзіця з пялёнак вывучыць дзве мовы: маміну і татаву. Не верце тым умыслова недалёкім людзям, якія лічаць, што беларуская мова сапсуе кар'еру вашаму дзіцяці і "испортит его русское произношение".

Чым больш моваў ведае чалавек, тым багацейшы яго духоўны свет і тым лягчэй яму ўладкавацца ў жыцці. У заходніх краінах звычайны кельнер у рэстаране ці прадавец у краме валодае 2-3 мовамі.

8. Выкарыстайце ўсе магчымасці, каб дзіця ўладкаваць у садок ці хаця б у групу, дзе выхавацелькі будуць з дзецьмі гаварыць па-беларуску. Разумею, што гэта ўсё амаль на ўзроўні фантастыкі, паколькі ўсё русіфікавана, але рукі апускаць нельга. Майце кантакты з іншымі бацькамі, разам дабівайцеся, права вашым дзецям вучыцца на роднай мове.

9. Выпішыце свайму дзіцяці беларускі часопіс, пачынаючы ад "Вясёлкі", купляйце беларускія кнігі, якія будуць цікавымі вашаму дзіцяці. Па меры таго, як дзіця падрастае, на кніжнай паліцы павінны з'яўляцца такія аўтары, як Караткевіч, Тарасаў, Чаропка, Арлоў, а ў старэйшых класах — Васіль Быкаў. Бацькам самім цікава будзе чытаць, да таго ж заўсёды можна наладзіць, так бы мовіць, "калектыўнае" сямейнае чытанне цікавых урыўкаў з кнігі і абмен думкамі. Не лянуйцеся гэта рабіць, паважаныя бацькі, як бы вам ні не хапала часу ці якімі б зморанымі вы ні былі, бо гэта "акупіцца" адданасцю, адкрытасцю і любоўю вашага дзіцяці. Калі бацькі і дзеці становяцца аднадумцамі — гэта сапраўднае шчасце.

10. У размовах з дзецьмі часцей гаварыце пра Беларусь, яе прыроду, прыродныя багацці, гарады, яе гісторыю, людзей, якімі трэба ганарыцца. Дзіця з малых год павінна ведаць, што яно жыве ў Беларусі, таму называецца беларусам. Усё, што па-за межамі Беларусі, — гэта замежнае, не наша. А нашае — Беларусь, і яна належыць нам, у тым ліку і вашаму дзіцяці, і — нікому з-за мяжы. Тых, хто з-за мяжы, можна паважаць, а любіць, як тату і маму, толькі Беларусь.

11. Растлумачце дзіцяці, што нашы гістарычныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Усё іншае — не нашае, часовае. Наш сцяг вельмі старажытны, у яго колер Хрыстовай плашчаніцы, і таму ён святы і будзе аберагаць ваш дом ад хвароб, бяды і рознай напасці. Калі вы сур'ёзна паставіцеся да гэтага, самі пераканаецеся ў справядлівасці сказанага.

12. Азнаёмцеся самі па літаратурных і навуковых крыніцах з важнейшымі гістарычнымі падзеямі нашага краю і даступна расказвайце сваім дзецям. Звазіце дзяцей хаця б у адно — два месцы, дзе вырашаўся не раз на працягу гісторыі лёс Беларусі, дзе адбываліся важныя падзеі, дзе засталіся помнікі даўніны (Полацк, Навагрудак, Вільня, Нясвіж, Менск, Заслаўе, Крэва, Ліда, Ворша, Мір, Будслаў, Жыровічы і інш.). Пакажыце храмы, замкі, манументы — дзіця адчуе гонар за сваю краіну.

13. Адзначайце ў сям'і народныя і рэлігійныя святы ў духу нацыянальных і мясцовых традыцыяў (галінкі вярбы ў Вербную нядзелю, галінкі бярозы ў дзень Сёмухі, букеты палявых кветак і вянкі на Купалле, Куцця хоць са жменяй сена пад абрусам), Дзяды і Радаўніцу — таксама традыцыйна. На аснове народнага звычаю, напрыклад, можна зладзіць свята хлопчыку, калі ён уступае ў падлеткавы ўзрост, — пастрыжыны.

14. Часцей бывайце разам у вёсцы, у лесе, у полі, ля рэчак і азёр. Вучыце любіць і зберагаць і кветку, і дрэва, і сцяблінку, і птушку, і звера, бо гэта НАШАЯ прырода, яна была, калі жылі нашы дзяды-прадзеды, і павінна застацца непакалечанай і пасля нас. Дзіця з вашай дапамогаю зразумее ролю сваёй выключнасці ў абароне прыроды і ўсяго жывога на нашай зямлі: апякуюся, берагу, захоўваю, бо гэта нашае, а нішчыць — толькі чужынец, захопнік, акупант.

15. Падтрымлівайце сяброўства сваіх дзяцей з тымі, хто гаворыць на беларускай мове. Дзіця не будзе адчуваць сябе адзінокім, асабліва ў расейскамоўным асяроддзі.

16. Хадзіце маліцца ў храмы, дзе богаслужба ідзе па-беларуску.

17. Не прамініце і пытанне повязі пакаленняў: мама — бабуля, дзядуля — прабабуля. Тое ж і па лініі таты.

Асноўныя падваліны трэба палажыць да таго, як дзіця пачне хадзіць у школу. У дашкольным узросце яно ўжо здольнае запомніць, хто быў яго прадзедам, як звалі, чым займаўся, дзе жыў, што добрае рабіў для сваёй сям'і і наогул для людзей. Еднасць і пераемнасць у сям'і вядзе да еднасці нацыі.

18. Калі не ў дашкольным узросце, то ва ўсялякім выпадку — ва ўзросце 7 - 8 год дзіця павінна ведаць, што святая Ефрасіння Полацкая — апякунка Беларусі, што Полацак, Навагрудак, Вільня і Менск — гэта сталіцы беларусаў за час беларускай дзяржаўнасці, што Багдановіч, Купала, Колас — беларускія паэты і інш. Ведаць са слоў блізкіх людзей, з сям'і, бо ў школе, калі так пойдзе далей, яму могуць і не сказаць.

19. Няхай ваша дзіця бачыць, што ў нас ёсць сябры, якія таксама гавораць на беларускай мове. Не саромейцеся ўсюды гаварыць па-беларуску. Выпрацоўвайце ў сабе самапавагу, годнасць, гонар за сваіх блізкіх, за свой народ. Забараняючы нашу мову, рэпрэсуючы за яе, высмейваючы, усе захопнікі прывучылі нас саромецца нашай беларускай мовы і тым самым убівалі нам у галавы комплекс непаўнавартасці. А людзьмі, якія паверылі ў сваю непаўнавартасць, можна як заўгодна папіхаць, не раўнуючы, як быдлам. Час расставацца з гэтай акупанцкай "завядзёнкай".

Не перастаю паўтараць: калі мы не будзем паважаць сябе, сваю сям'ю, свой народ, сваю мову, дадзеную Богам, ніхто ў свеце не будзе нас паважаць і з намі лічыцца.

*г. Баранавічы*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

***Гасцяваць і гасціць.*** У беларускай мове натуральна пераважае першае слова: яно мае і свае вытворныя: ***гасцяванне*** і ***гасцявальнік, гасцявальніца***. А вось форма ***гасціць*** — адзінокая. Мусіць, таму "Беларуска-расейскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча фіксуе толькі першае з іх: ***"Гасцяваць — гостить"*** (с.79). "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі падае ўжо абедзьве лексемы, але з перавагай першай: ***"Гостить несов. — гасцяваць, гасціць"*** (с.102). А вось наступны акадэмічны "Беларуска-рускі слоўнік" пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962.С.204) ужо выганяе слова ***гасцяваць*** з літаратурнага слоўніка, а нарматыўным прызнае толькі ***гасціць*** (супольнае формаю з рас. ***гостить***). Праўда, вытворнае ***гасцяванне*** падаецца і тут, дый без паметаў, як адэкват рас. ***гощение***. Ужо гэта пярэчыць высновам складальнікаў слоўніка і яго рэдактара К.Крапівы. Гэтую недарэчнасць — непрызнанне натуральнага ў беларускай мове слова ***гасцяваць*** за літаратурную норму — прадублявалі і ў двухтомавым яго перавыданні, дзе бачым: "***Гасцяваць*** несов. разг. см.***гасціць***" (Т.І.Мн.,1988.С.316). Але: "***Гасцяванне*** ср. — пребывание в гостях". Як "размоўнае" падае ***гасцяваць*** (механічна перапісаўшы з згаданых даведнікаў) і "Слоўнік беларускай мовы" 1987г. Аднак усе перавыданні РБС-53 падаюць два эквіваленты рас. ***гостить*** — словы ***гасціць*** і ***гасцяваць*** мяняючы іх толькі месцамі: "***Гостить*** несов. ***гасціць, гасцяваць***" (РБС-82.Т.І.С. 187; РБС-93. Т.І. С. 327). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.2. Мн., 1978.С.39) фіксуе: "***Гасцяваць*** незак. Тое, што і ***гасціць***". Гэтую норму засведчыў і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996. С.146): "***Гасцяваць*** незак. Тое, што і ***гасціць*** // наз. ***гасцяванне***".

Вось як ішло змаганне, адстойванне адметнага, адмысловага слова. Падчас незалежнасці, калі адраджаецца нацыянальная культура, ***гасцяваць*** набывае перавагу як адмысловае слова. І невыпадкова: яго падтрымліваюць вытворныя ***гасцяванне, гасцявальнік, гасцявальніца.***

***Сумнеўны — а не сумніцельны.*** "Рос забойца ў так званай нядобранадзейнай сям'і, яго ўсё больш цягнула ў сумніцельныя кампаніі, прываблівала блатная рамантыка крымінальнага свету". (Народная воля. 4.08.1998.С.2). Слова ***сумніцельны*** неўласцівае нашай мове, пра што сведчыць найперш яго небеларуская словаўтваральная структура: ***сумн -іцельн-ы***. Расейскаму суфіксу ***-цельн-*** (***-іцельн-***) адпавядаюць у беларускай мове іншыя: ***-н-, -ч-, -льн-***: ***праваахоўны (правоохранительный), даверны ліст і даверчая грамата (верительная грамота), пытальны знак (вопросительный знак), падрыхтоўчы (подготовительный), ачышчальны (очистительный)*** ды пад. Рас. ***сомнительный*** беларускія слоўнікі перакладаюць іншакаранёвымі адпаведнікамі: "***Сомнительный*** I. (возбуждающий сомнение) ***няпэўны***; ***сомнительный*** успех — ***няпэўны*** поспех; 2. (подозрительный) ***падазроны***; человек с ***сомнительным*** прошлым — чалавек з ***падазроным*** мінулым; 3. (двусмысленный) ***двухсэнсавы***; сомнительный комплимент — ***двухсэнсавы*** камплімент". (РБС-53.С.645). Тое самае і ў РБС-82 (Т.2.С.418). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года і яго двухтомавае перавыданне падаюць толькі словы ***сумнявацца*** і ***сумненне***, а прыметніка з гэтым коранем няма. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некарашэвіча занатаваў: "***Сумненны — сомнительный***" (с.304). Гэты прыметнік утвораны ад назоўніка ***сумненне*** (***сумненны>сумненны***). Аднак ён невыразны сваёю будоваю (такія ўтварэнні — ненатуральныя ў беларускай мове). Таму ў 90-х гадах стаў выкарыстоўвацца прыметнік ***сумнеўны*** — ўтварэнне ад ***сумнеў***, якое актыўна стала замяняць слова ***сумненне.*** "Я лічу самым трагічным, без ***сумневу***, вайну 1654-1667гг." (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн.,1995.С.5). Варыянтам гэтага прыметніка ёсць ***сумніўны*** (ад ***сумніў***). Яно трапіла ўжо на старонкі "Русско-белорусского словаря" 1993 года, дзе чытаем: "***Сомнительный*** 1.(возбуждающий сомнение) ***няпэўны***; ***сумніўны***; ***сомнительный*** успех — ***няпэўны (сумніўны)*** поспех; 2. (подозрительный) ***падазроны; сумніўны***; человек с ***сомнительным*** прошлым — чалавек з ***падазроным (сумніўным)*** мінулым" (Т.3.С.408-409).

Форма ***сумнеўны*** стасуецца з ***сумнеў*** і ***сумненне*** і таму больш натуральная.

***Недакурак і акурак, недасеў і абсеў.*** Першыя словы ў гэтых парах маюць выразную структуру і матывацыю: "***Недакурак***... Рэштка недакуранай папяросы, цыгары" (ТСБМ. Мн., 1996.С.385). "***Недасеў***. Частка зямлі, якая засталася незасеянай" (Тамсама).

Як бачым, словы з прэфіксам ***неда-*** — паказваюць на прадмет, што ўзнік у выніку непаўнаты, недастатковасці дзеяння, неадпаведнасці патрэбнай норме: ***недакурыць >недакур - ак, недасяваць (недасеяць) >недасеў***. Такія аддзеяслоўныя назоўнікі стасуюцца таксама з дзеепрыметнікамі: ***недакураны > недакур>ак, недасеяны ( і недасяваны) -недасеў***. Пры ўтварэнні гэткім спосабам адбываецца скарачэнне ўтваральнай асновы (адымаецца дзеепрыметнікавы фармант ***-ан- (ян-)): недакур- (ан-ы)-ак, недасяв- (аны)>недасеў*** (нульсуфіксавае ўтварэнне). А вось словы з прыстаўкаю ***аб-*** ці ***а-*** такой выразнай матывацыі і словаўтваральнай будовы пазбаўленыя. Недарэмна пры тлумачэнні іх значэння выкарыстоўваюцца згаданыя ўжо натуральныя беларускія структуры з прыстаўкаю ***неда-***:"***Акурак***,м.. ***Недакурак***, рэшткі... недакуранай папяросы, цыгары". (Тамсама). С.54). "***Абсеў*** (і ***абсевак***)... Лапіна на ніве, якая засталася незасеянай" (Тамсама.С.22). Да таго ж застаецца незразумелай утваральная база слова ***акурак***, бо слова ***акурыць*** мае ў беларускай мове толькі значэнне "абдаць каго-небудзь, што-небудзь дымам" (ТСБМ. Т.І.Мн.,1997.СС.219 і 53). Як бачым, усе перавагі ў такіх парах словаў маюць першыя з іх кампаненты — ***недакурак, недасеў.***

***Прыземны палёт — а не брыючы палёт.*** Нашыя акадэмічныя слоўнікі, створаныя падчас панавальнай ідэалогіі на "зліццё нацыяў, іх культуры і мовы", шматлікія тэрміналагічныя адзінкі падавалі без перакладу, толькі напісаныя па-беларуску. Да іх належыць і ***брыючы палёт*** (рас. ***бреющий*** полёт). Яго бачым у першым томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1988. С.199): "***Брыючы*** ав. ***брыючы*** палёт — ***бреющий*** полёт".

Аднак беларускія вайскоўцы тут маюць адмысловы беларускі эквівалент. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С. Судніка, С. Чыслава (Мн., 1997.С.148) чытаем: "***Бреющий*** полёт — ***прыземны*** палёт". Як бачым, знойдзены адмысловы сваямоўны адэкват, з выразным матываваннем: ***пры зямлі*** (нізка) ***>пры-зем-н-ы.***

*(Працяг у наступным нумары)*

# Змаганне за права выкладаць у школе па-беларуску працягваецца

"Наша слова" ўжо пісала пра лёс старшыні магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ сп. Міхася Булавацкага, які практычна быў пазбаўлены адказнымі чыноўнікамі магілёўскага абласнога ўпраўлення адукацыі права выкладаць у школе матэматыку па-беларуску.

Зараз мы прапануем чытачам новыя дакументы па гэтай справе.

**Алег Трусаў.**



УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ АБЛВЫКАНКОМА

УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ ОБЛИСПОЛКОМА

212030, гор. Могилев
ул. Ленинская, 33, комн. 317
БУЛАВАЦКОМУ М.П.

На Ваше обращение в управление образования Могилевского облисполкома по вопросу трудоустройства учителем математики в классы с белорусским языком обучения сообщаем, что в городе Могилеве такой возможности нет. Можем предложить работу в сельской местности.

Начальник управления образования В.С.БОГДАНОВ

15.12.98 г.

212030, гор. Магілёў
вул. Ленінская, 33, пак.317
Булавацкаму М. П.

На Ваш зварот ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама па пытанню працаўладкавання настаўнікам матэматыкі ў класы з беларускай мовай навучання паведамляем, што ў горадзе Магілёве такой магчымасці няма. Можам прапанаваць працу ў сельскай мясцовасці.

Начальнік упраўлення адукацыі
В. С. Багданаў.
*(Пераклад з расейскай)*

Начальніку ўпраўлення адукацыі
Магілёўскай вобласці
**Багданаву В.С.**
на ліст № 2159 ад 15 снежня 1998 года.

Шаноўны Валерый Стэфанавіч! У пачатку 90-х гадоў, калі абласным упраўленнем адукацыі кіраваў Г.М.Пятроўскі, пачыналася падрыхтоўка да стварэння ў Магілёве беларускага ліцэя. Потым Генадзя Мікалаевіча перавялі ў міністэрства, і распачатую працу Таварыства беларускай мовы заканчвала ўжо з новым начальнікам упраўлення А.П.Раманавым. На вялікі жаль, А.П.Раманаў непрыязна паставіўся да гэтай ідэі і зрабіў ўсё, каб яе прыдушыць. Яму гэта ўдалося і, як вынік, беларускага ліцэя ў Магілёве няма дагэтуль. Прозвішча гэтага чалавека будзе занесена ў "Шэрую кнігу беларускай мовы" (дзве кнігі — "Белую кнігу беларускай мовы" і "Шэрую кнігу беларускай мовы" мяркуецца выдаць у канцы тысячагоддзя), яго ролю ў магілёўскай адукацыі ацэняць нашчадкі, у тым ліку яго ўнукі і праўнукі.

Цяпер праблему беларускамоўнай адукацыі ў Магілёве даводзіцца вырашаць Вам. Вы пішаце, што ў Магілёве няма магчымасці працаўладкаваць мяне ў класах з беларускай мовай навучання. Тады давайце будзем ствараць такую магчымасць. Ёсць настаўнікі, гатовыя працаваць у такіх класах, і ёсць вучні, якія хочуць вучыцца ў такіх класах (Вам і Вашым намеснікам даводзілася адказваць на пісьмы іх бацькоў). Чаму б ім не дапамагчы сустрэцца?

Вашу ж прапанову мне перайсці працаваць у вясковую школу я ўспрымаю як няўдалы жарт. Не таму, што для мяне гэты варыянт непрыймальны. Я восем гадоў працаваў у вясковых школах і вяртанне туды — для мяне цалкам магчымы варыянт, калі гэта будзе школа з нармальнымі жыллёвымі ўмовамі. Няўдалы жарт я бачу ў тым, што Вы нібыта хочаце пазбавіць магілёўскіх школьнікаў і школьнікаў раённых цэнтраў шчасця вучыцца на роднай мове, адпраўляючы ўсіх беларускамоўных настаўнікаў у вёску. Успрымаць гэта сур'ёзна не хочацца.

Шаноўны Валерый Стэфанавіч! Мне б хацелася, каб Вы задумаліся над некаторымі фактамі. Раней я вёў спецкурсы ў абласным тэхналагічным ліцэі. Вучні, якія паступілі ў ліцэй з вясковых школ, размаўлялі са мною на часткова беларускай мове, бо рэзкі пераход з прывычнай беларускай мовы на рускую быў для іх няпростым. Урэшце і я стаў дзяліць групы на гарадскіх вучняў і вясковых вучняў, размаўляючы з апошнімі на роднай для іх мове. І мне, і ім так было больш камфортна.

Яшчэ факт. У ліцэі, якім некалі кіравалі Вы, вучыцца Міша Гайкоў. Гэты таленавіты хлопчык з Шклоўскага раёна (В.В.Барашкаў лічыць яго адным з найбольш здольных у фізіцы і адпраўляе на абласную алімпіяду) у мінулым годзе амаль не быў выключаны з ліцэя з-за нізкай паспяховасці па рускай мове.

Раней гатак жа актыўна спрабавалі выпраўляць леваручных. Лічылася, што леваручнасць — гэта загана, трэба пісаць правай рукой. Цяпер, дзякаваць Богу, зразумелі неразумнасць такога выпраўлення.

Калі ж мы зразумеем, што гэтак жа неразумна пераломваць мову чалавека, выпраўляць яе на іншую? Восемь гадоў чалавека вучылі на беларускай мове, ён зжыўсязрадніўся з ёю, і вось — паступіў у ліцэй і пачынаецца ломка. Дзеля чаго гэта робіцца?

Вельмі спадзяюся, што праблема майго працаўладкавання ў беларускім класе можа быць вырашана і ў Магілёве. Давайце шукаць такую магчымасць на карысць школьнікам і Беларусі, бо трымаць настаўніка майго ўзроўню ў беспрацоўных — занадта дарагая для краіны з'ява.

З павагай і навагоднімі пажаданнямі
Булавацкі М.П.
29 снежня 1998 года
212030, Магілёў, Ленінская,33,317




# Нацыянальная адукацыя

У Берасці выйшла IX-я кніга Тэматычнага зборніка навуковых прац "Нацыянальная адукацыя". Называецца кніга "Адукацыя дыяспар" і ўтрымоўвае 23 артыкулы па праблемах адукацыі нацыянальных меншасцяў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама па праблемах адукацыі беларусаў у замежных краінах. Аўтары - навукоўцы Беларусі, Германіі, Канады, Летувы, Польшчы, Расеі - удзельнікі 6-й Міжнароднай навуковай канферэнцыі па нацыянальнай адукацыі "Адукацыя дыяспар", якая адбылася 1-3 красавіка 1998 года ў Берасці.

Навуковы рэдактар выдання Яцкевіч С. А.

# Віленскай беларускай гімназіі — 80

Першага лютага споўнілася 80 гадоў Віленскай беларускай гімназіі. У гэты дзень, у 1919 годзе, пачаліся заняткі. Ініцыятарам і стваральнікам яе быў віленскі археолаг Іван Луцкевіч. Вельмі кароткі час (месяц), будучы безнадзейна хворым, ён працаваў выкладчыкам у гімназіі, але лекцыі яго прарываліся моцным кашлем. Гісторыя гімназіі — гэта гісторыя змагання за яе існаванне. Ад самага пачатку існавання вучні выхоўваліся ў духу беларускасці. З самага пачатку і да закрыцця гімназіі беларускую мову выкладала Алёна Сакалова - Лекант. Мова, якую яна ўкладала ў галоўкі вучняў, была мова асяроддзя Вільні і Віленскага краю. Веды яна давала вельмі добрыя. Выпускнікі яе, пасля заканчэння гаварылі так, як вучыла пані Алёна, гэта аўтарытэт настаўніка.

Успамінае былы вучань Мікола Рулінскі, якога бацька — паляшук адправіў вучыцца на роднай мове ў Вільню, дзе ўжо вучыўся яго старэйшы брат Зьмітрок Рулінскі (зараз ён працуе рэгентам хору ў царкве, што на Вайсковых могілках у Менску). Прыязжае Мікола ў Вільню і здае іспыты па беларускай мове Алёне Сакаловай. Ён прачытаў верш:

*Вучыся пябожа,*
*вучэнне паможа*
*Змагацца з нядоляй,*
*з няволей.*
*Што мучыць сягоння,*
*Што думкі трывожыць,*
*Збяжыць і не прыйдзе ніколі.*
*Жаль згіне, як хмара,*
*Ня будзеш нездарай, —*
*Нідзе, у нічым не загінеш,*
*Ты праўду ў праўдзе*
*Як сонца між хмараў*
*Спазнаеш,*
*што цемен не будзеш.*

Прачытаў гэты кароценькі верш і быў прыняты вучнем у гімназію. Хто аўтар, не памятаю, але запомніўся на ўсё жыццё, зараз чытае ўнукам, прачытаў яго і на 80-годдзі гімназіі ў гістарычных Базыльянскіх мурах. Пані Алена была не толькі добрай настаўніцай, але і многім вучням пад час вучобы яна замяняла маці. Той жа Мікалай Рулінскі адседзеўшы ў сталінскіх лагерах Омска 8 гадоў, прыехаў у Вільню і першая да каго ён пайшоў, да Алены Сакаловай - Лекант, якая жыла на Вострабрамскай вуліцы. У сувязі з 25-годдзем гімназіі яе ўзнагародзіў ордэнам Радаслаў Астроўскі, а, як прыйшлі Саветы за беларускасць "узнагародзілі" 6 гадамі сталінскіх лагераў. Памерла яна ў 1960 годзе, пахавана на Ліпоўцы побач з сынам.

З 1919 года, два гады ў гімназіі выкладаў беларускую літаратуру Максім Гарэцкі. Ён быў першым, хто заўважыў талент Наталлі Арсенневай — вучаніцы гімназіі, быў яе рэцэнзентам. Максім Гарэцкі аўтар "Гісторыі беларускай літаратуры" (Вільня, 1920г.) "Хрэстаматыі беларускай літаратуры: XI век — 1905г" (Вільня,1922г). У 1930 годзе арыштаваны, асуджаны да высылкі на 5 гадоў у Вятку, дзе адбываў тэрмін пакарання да 1935 года. Пасля М.Гарэцкага беларускую літаратуру выкладаў Антон Луцкевіч. Зоя Коўш успамінала яго, як добрага знаўцу літаратуры. А ён яшчэ вучыў "людзьмі звацца", шанаваць сваю годнасць і годнасць другіх, не здраджваць сваім ідэалам у залежнасці ад абставін. Ён быў вельмі ветлівым, добрым. Польскія ўлады яго звольнілі з працы з-за недастатковай адукацыі. Потым ён працаваў дырэктарам беларускага музею, дзе фактычна працягваў свае лекцыі. У 1939 годзе арыштаваны, у 1943 загінуў. На могілках Росы ў Вільні пастаўлены яму помнік. А.Луцкевіча, змяніў выкладчык літаратуры Ігнат Дварчанін, пакінуў пасля сябе след "Хрэстаматыю беларускай літаратуры нашаўніскага перыяду ад 1905 года" (Вільня 1927г.), якая адыграла вялікую ролю ў школьным навучанні і патрыятычным выхаванні заходняй беларускай моладзі. У 1930 годзе арыштаваны і асуджаны польскімі ўладамі на 8 гадоў турмы. Расстраляны НКВД у1933 г. Рэалібіта-ваны ў 1956 годзе.

Пасля І.Дварчаніна выкладаў беларускую літаратуру Іляшэвіч (паэт, выпускнік гімназіі). Віхры Другой сусветнай вайны яго занеслі ў Беласток, потым у Нямеччыну, дзе ён выкладаў у беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, у Нямеччыне ён і загінуў.

Пачынаючы з 1921 году ў гімназіі ўсе прадметы выкладаліся толькі на беларускай мове, перакладаліся падручнікі з расейскай, польскай моваў. Сярод выкладчыкаў былі Барыс Кіт (ён і апошні дырэктар гімназіі), Радаслаў Астроўскі, мастацкай студыяй кіраваў Язэп Драздовіч, хорам — Рыгор Шырма, музыку выкладаў Сымон Кароль. Усе яны стварылі атмасферу беларускасці. У 1922 годзе ў гімназіі вучылася 25% беларусаў, у 1923 — 28%, у 1928 — 99%. У беларускай гімназіі вучыліся і расейцы, і палякі, і габрэі, і татары, і іншыя. Адныя хадзілі ў касцёл, другія — у царкву, трэція — у сінагогу, але ніколі не было сварак, чыя рэлігія лепшая.

Рэлігію выкладаў ксёндз Адам Станкевіч, гэты чалавек і прычыніўся да атмасферы талерантнасці. Яго лекцыі цікавыя, філасофскія, не мелі драматычнага характару. Такімі ўспамінамі падзялілася на святкаванні 80-годдзя гімназіі былая вучаніца: доктар гуманітарных навук Галіна Антонаўна Войцік - Луцкевіч (дачка Зоські Верас). На свяце выступіў Мікола Рулінскі — былы вучань. У прывітанні ён падзякаваў ТБК і асабіста Хв. Нюнька, за ўшанаванне памяці былых выкладчыкаў і вучняў — гэта мемарыяльныя таблiцы, помнікі на могілках. Па ўсяму свету раскідаў лёс былых вучняў, але яны ўсюды займаліся і займаюцца беларускасцю. Н. Арсеннева, В.Жук-Грышкевіч (займаўся выданнем беларускіх кніг, 10 гадоў быў прэзідэнтам БНР), В. Тумаш, Янка Станкевіч, Святаслаў Коўш. Многія дзесяткі гадоў адседзелі ў сталінскіх лагерах: Лявон Луцкевіч, Зоя Коўш, Мікола Рулінскі, вярнуліся, збіраліся разам, збіралі матэрыялы, пісалі ў шуфляды. У час гарбачоўскай перабудовы яны адрадзілі беларускае жыццё ў Вільні, адкрылі беларускую школу, якая з'яўляецца нашчадкам гімназіі. Сабрана шмат матэрыялаў. Зоська Верас зрабіла фотаальбом, але гісторыя беларускай гімназіі заслугоўвае большага, яна павінна быць навукова апрацаванай. Яе па-праву называюць кузняй беларускай інтэлігенцыі. Нажаль, гады нельга затрымаць, жыццё працягваецца. Адныя адыходзяць, падрастае новае пакаленне. З кожным годам становіцца ўсё менш сведкаў тых часоў. Памятаю святкаванне 70 гадоў, у цесным коле палацу Прафсаюзаў, тады яшчэ толькі пачалі гаварыць пра былую гімназію, 75 гадоў адзначылі шырока, была прадстаўнічая дэлегацыя з Беларусі, у Вільні адкрылася беларуская школа. І вось ужо 80 гадоў, 29 студзеня у школе выступілі з канцэртнай праграмай вучні, у кожным класе аформлены стэнд, выстава малюнкаў, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Летувы, з Беларусі — Г.Пяцігор уручыў граматы Міністэрства адукацыі групе настаўнікаў, павіншавалі "старажылаў" — вучняў школы — Бука Наташа і Шавыраў Толік — яны першыя вучні адроджанай школы ў Вільні.

Вось былых гімназістаў было толькі двое. Мала іх было і на ўрачыстым святкаванні ў былым памяшканні гімназіі, што на Вострабрамскай вуліцы, 31 студзеня. У зале фотавыстава "Гісторыя віленскае беларускай гімназіі", "Сучасная беларуская школа ў Вільні, з той жа праграмай канцэртнай выступілі вучні школы, госці свята — дзіцячы калектыў з Друскенік "Спадчына".

Мінуў яшчэ адзін юбілей: 80 гадоў з дня адкрыцця, 55 гадоў — як зачынілі саветы.

У школе дзень гімназіі самае вялікае свята, на яго прыходзяць і выпускнікі нашай школы. Беларуская гісторыя Вільні вельмі багатая, мінулае трэба ведаць, каб адчуваць сённяшні дзень, будаваць заўтрашні. Упэўнена, наступіць дзень, калі нехта з вучняў адро-джанай школы, напіша гру-нтоўную, навуковую працу не толькі пра былую гімназію, але і пра гісторыю адраджэння адзінай беларускай школы ў Летуве.

*г. Вільня 1 лютага 1999г.*
*Леакадзія Мілаш.*

# З КІМ ВЫ, СЕЙБІТЫ "РАЗУМНАГА, ДОБРАГА, ВЕЧНАГА"?

***Умение валодаць, распараджацца сабою заўсёды ўзвялічвае чалавека, рабства заўсёды яго прыніжае.***
***(Блез Паскаль — 1623-1662).***

Наша Бацькаўшчына ў небяспецы. Прывід духоўнага Герастрата ў асобе "вярхоўнага панславіста" блукае па Беларусі. Дамоклаў меч павіс над нашым суверэнітэтам і незалежнасцю. Мэтанакіравана знішчаецца ўсё нацыянальнае, беларускае. У гэтай агіднай, злачыннай вакханаліі аб'ядналіся ўсе магільшчыкі беларушчыны, пачынаючы ад прыхадняў тыпу ціцянковых, замяталіных, посахавых, стражавых у хаўрусе з унутранай пошасцю ды трубадурамі-пісакамі: скобелевымі, спрынчынамі, канчаючы ашыйнікаваю "вертыкальнай" мелюзгой, каб ганьбіць, зневажаць, бэсціць нашы нацыянальныя набыткі — мову, нацыыянальную культуру, гістарычную спадчыну і гэтым самым вытруціць са свядомасці беларусаў іх нацыянальны код і падрыхтаваць беларускую нацыю да гвалтоўнай інкарпарацыі ў Расею.

Да публічнага апаганвання беларускай мовы нашы нядобразычліўцы адшукалі на сметніку гісторыі ганебныя эпітэты кшталту "деревенская", "мужицкая", "хамская", якімі калісьці надзялялі беларускую мову каланізатары, акупанты.

Кароткі міг нацыянальнага адраджэння спынены, пачалося руйнаванне ўсяго беларускага. Пасля рэферэндуму 1995 года новаспечаны белпрэзідэнт заявіў публічна ў БДУ:"Я спыню беларусізацыю"! Называць сябе "гонарам нацыі" і пасягаць на яе нацыянальную душу — мову — рэчы не сумяшчальныя. Такое мог сказаць толькі той, у каго чыста згладжана сумленне. У сувязі з такой заявай нагадаем белпрэзідэнту, дыпламаванаму гісторыку, што пісала "Правда" 4 жніўня 1988 года: ***"... сама пастаноўка пытання — вывучаць ці не вывучаць родную мо-ву — амаральна, а ва ўмовах Украіны і Беларусі яна пярэчыць духу агульнага паходжання і непахіснай дружбы трох братніх народаў — рускіх, украінцаў і беларусаў, якія разviліся з аднаго гістарычнага кораня, і што ў сітуацыі, якая склалася, АБАРОНУ МОВЫ ПАВІННА УЗЯЦЬ НА СЯБЕ ДЗЯРЖАВА"*** (падкрэслена мною — В.С.)

Злавесная заява белпрэзідэнта — гэта заклік да наступу на нашы нацыянальныя каштоўнасці. Па яго волі з касмічнай хуткасцю ліквідуюцца беларускамоўныя школы і класы, прычым магільшчыкі беларусізацыі спасылаюцца на добра знаёмую мелодыю: "Так хочуць бацькі". Непрыкратым дзікунствам была спроба гвалтоўна закрыць адзіную на Беларусі нацыянальную вучэльню беларускамоўны ліцэй. Тут цемрашалы чамусьці не ўспомнілі, што дзеці нацыянальнасвядомых бацькоў вучацца на роднай мове па волі бацькоў. На гэты раз згуртаванасць бацькоў, навучэнцаў ліцэя пры падтрымцы грамадскасці зблытала планы русіфікатараў...

Маштабы наступу на беларушчыну набылі такі размах, што перакрочылі рысу нават уяўнай прыстойнасці, уласцівай цывілізаванаму свету і даведзены да дзікунства натуральнага права. Як паведамляе незалежная прэса, свядомых беларусаў за надпісы на плакатах "Жыве Беларусь!", "Беларусь — наш дом", "Беларусь — у Еўропу!" арыштоўваюць, штрафуюць, судзяць "тройкі", "двойкі", нават "адзінкі". Адкормленыя амапаўцы і спецназаўцы бязлітасна б'юць дубінкамі падлеткаў за тое, што тыя размаўляюць на матчынай мове публічна, цкуюць сабакамі, а бэпэсэзмаўцы-янычары ў скураных куртках хапаюць падлеткаў і валакуць іх на пастарункі. Дзе, у якой дэмакратычнай дзяржаве такое магчыма? А прэзідэнт на ўвесь свет выхваляецца, што на Беларусі дэмакратыі болей, чым ва ўсёй Заходняй Еўропе. Барані нас Божа ад такой "дэмакратыі"!

Прасочым эвалюцыю палітычнага характару прэзідэнта, якая праявілася ў ягоных выказваннях і практычных дзеяннях. Хутка пасля абрання прэзідэнтам А. Лукашэнка заявіў: "Беларусь для мяне — пройдзены этап". Потым — "Прэзідэнт — гарант суверэнітэту", "Прэзідэнт — гонар нацыі", а затым — публічная знявага беларускай мовы і нацыянальна-свядомых беларусаў: "На беларускай мове нельга выказваць штосьці вялікае. На беларускай мове размаўляюць толькі тыя, хто больш нічога не ўмее, як размаўляць на беларускай мове". Нарэшце "абаронца суверэнітэту, самазваны "гонар нацыі" зняў сваю маску і паказаў свой агалены твар, заявіўшы ў Сімбірску: "Мы русские!", а затым у Омску: "... радзіма ў нас адна. Для нас усіх як Беларусь, так і Сібір — агульная Айчына". Нашпігаваны фанастычнымі ідэямі панславізму, пранікнуты да мазгоў касцей " звышкаштоўнымі ідэямі", самазваны славянскі "месія" гатовы на ўсё дзеля іх рэалізацыі нават згодны заплаціць за шапку Манамаха коштам суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны, ператварыўшы яе ў паўночна-заходні катушок або ў шэсць губерніяў Расійскай імперыі. Не разумець гэтага, значыць, нічога не разумець у стратэгічных амбіцыйных планах "вярхоўнага панславіста". Але фартуна — жанчына зменлівая: сёння ты на калясе, заўтра — пад калёсамі...

У гэты змрочны, трагічны для нашай Бацькаўшчыны час, змагання дабра са злом, справядлівасці з несправядлівасцю кожны нацыянальна-свядомы беларус павінен вызначыць сваё месца ў гэтым змаганні — або стаць у шэрагі барацьбітоў за адраджэнне нашай Бацькаўшчыны, яе мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны, або прымкнуць да цемрашалаў і дапамагаць ім у ліквідацыі Беларусі, як дзяржавы. Трэцяга шляху няма. Тыя, хто думае прастаяць на ўзбочыне ў позе маргінала, вельмі памыляюцца. Відаць, меў рацыю французскі дзяржаўны і палітычны дзеяч Шарль Марыс Талейран (1754-1836) калі пісаў: "Хто адмаўляецца ад дзейнасці ў час грамадскіх землятрусаў, той спрыяе разбуральнікам".

Асобая роля ў гэтай барацьбе надаецца рэжымам сейбітам "разумнага, добрага, вечнага" — настаўнікам. Гэта іхнімі рукамі мяркуюць інкарпаратары, лёкаі вялікадзяржаўнага шавінізму здзейсніць сваю злавесную задуму, а менавіта выхаваць з маладога пакалення духоўна апустошаных нацыянальных нігілістаў, рэнегатаў, янычараў, якія і завершаць брудную справу магільшчыкаў беларушчыны ...

На жаль, на жаль, на вялікі жаль у пэўнай частцы настаўніцтва "з вачэй не апалі йшчэ павязкі", як калісьці пісаў вялікі Купала. Падвергшыся гіпататычным маніпуляцыям "вярхоўнага інтэгратара", яны паверылі ў салодкія дэманагічныя абяцанкі "райскага жыцця ў адзінай Айчыне". Амаль не чуваць у шэрагах нацыянальна-адраджэнцкага руху сейбітаў "добрага, разумнага, вечнага". Шмат хто з гэтай катэгорыі з-за раб-скага страху пранікся псіхалогіяй чэхаўскага персанажу "Чалавека ў футарале". Тут варта нагадаць вядомае выслоўе: калі раб не ўсвядоміў свайго рабства, ён проста раб, калі раб усвядоміў сваё рабства і не вядзе змагання за сваё вызваленне, ён - хам, халоп, калі раб усвядоміў сваё рабства і пачаў змагацца, ён змагар. У рымскага філосафа Сенекі ёсць "рэцэпт", як пазбавіцца рабскай псіхалогіі , а менавіта, выхоўваць у сваёй свядомасці нянавісць да рабства: "Рабства заўсёды адно, — пісаў Сенека, — хто яго аднойчы ўзненавідзеў, той нават у натоўпе валадароў будзе свабодны". Дарэчы, раб не можа выхаваць свабоднага чалавека, раб можа выхаваць толькі сабе падобнага.

Пацвярджэннем высновы Сенекі могуць служыць гераічныя ўчынкі ў змаганні за сацыяльнае адраджэнне настаўніка Алеся Белакоза з Гудзевічаў. Ён не збочыў з абранага ім шляху і стаў пераможцам у паядынку з гэбістамі ў той час, калі асобны атрад " ордэна мечаносцаў" мог сцерці чалавека ў парашок. Вядома, не кожны настаўнік можа быць Алесем Белакозам, але кожны павінен адстойваць свой гонар, сваю годнасць, сваю нацыянальную самасвядомасць, умець кіраваць сабою, быць праўдзівым у сваіх словах і ўчынках. Для ўсіх настаўнікаў Беларусі, асабліва для настаўнікаў беларускай мовы, ідэалам вернасці, непадкупнасці, самаахвяраванасці, справядлівасці павінна стаць доктар біялагічных навук, прафесар, выкладчык біялогіі БДУ Ефрасіння Ганчарова. Будучы рускай па нацыянальнасці, яна выкладае свае прадметы на беларускай мове, выступае ў незалежным друку ў падтрымку беларускай мовы, суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Вельмі сумна, што некаторыя настаўнікі беларускай мовы карыстаюцца ёю толькі на ўроках, а сярод сваіх знаёмых і ў асяродку сям'і размаўляюць толькі на "великом могучем", саромеючыся "деревенской", мужицкой" мовы. Такія настаўнікі нагадваюць аднаго персанажа з фельетона Зошчанкі — лектара, які прачытаўшы лекцыю аб шкоднасці курэння, выйшаў у вестыбюль, запаліў папяросу, усміхнуўся і пашыбаваў дамоў.

Адносна культуры і інтэлегентнасці некаторых "сейбітаў" можна меркаваць па дэлегатах першага з'езду настаўнікаў Беларусі, па іх паводзінах. Як паведамлялася ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, на з'езд былі абраны (а можа падабраны вертыкальшчыкамі?) "лепшыя "сейбіты" — эліта. І вось гэтая "эліта" сваімі паводзінамі зганьбіла сейбітаў "разумнага, добрага, вечнага". Якраз у той момант, калі "бацька" пацвельваўся з Барыса Ельцына, назваўшы яго васьмідзесяцігадовым старцам, свядома прыбавіўшы яму ажно чатырнаццаць гадоў, а сябе памаладзіўшы на тры гады, з'ездаўцы ў эйфарыі пляскалі ў ладкі, нібы малалеткі ў дзетсадку падчас ранішніку, калі цёця Каця расказвала ім прыдуманыя ёю розныя байкі. Затое адносна нацыянальнага адраджэння не было і ўспаміну. Калі б на з'ездзе прысутнічаў герой аповесці Я.Коласа "На ростанях" Лабановіч, дэлегат дарэвалюцыйнага з'езду беларускіх настаўнікаў, ён згарэў бы з сораму за паводзіны сваіх калегаў.

Зараз перад настаўніцтвам Беларусі стаіць нялёгкі выбар: каго выхоўваць? Ці апустошанага духоўна "патриота великого Отечества от Бреста до Курил" "Ивана няпомнящего", бесхарактарнага ашыйнікавага янычара, засушанага нацыянальнага нігіліста, ці сапраўднага патрыёта свае Бацькаўшчыны, нацыянальна-свядомага грамадзяніна вольнай, незалежнай, дэмакратычнай сувярэннай Беларусі, якая, як прарочыў вялікі Купала, абавязкова "зойме свой пачэсны пасад між народамі". Калі беларускія настаўнікі сапраўды хочуць з гонарам насіць вялікае, пачэснае званне сейбітаў "разумнага, добрага, вечнага", для іх ідэалам павінны стаць вершаваныя радкі пакутніцы паэткі-патрыёткі Ларысы Геніюш: "Як жыць, дык жыць для Беларусі, а без яе зусім не жыць!"

*Ляхавіцкі раён*
*в.Зубялевічы*
***Васіль Сокал,***
*выдатнік асветы, інвалід Айчыннай вайны.*

Насустрач VI з'езду ТБМ

## Інтэрвію з кіраўніком Рады ТБМ Першамайскага раёна г.Менска Шагуліным Алегам Іванавічам

***1. Як дзейнічае ТБМ раёна?***

— ТБМ Першамайскага р-на зараз існуе як намінальная грамадская структура, з не вельмі акрэсленымі межамі і складам сяброў. Сама вымушальнасць існавання на маёй радзіме ТБМ, робіць некалькі штучнай арыгінальнасць і самастойнасць ТБМ. Адказваючы у БССРаўскім дамініёне за ўратаванне ад смерці мовы -- першаснай кампаненты нацыянальнага існавання, ТБМ аўтаматычна ўжываецца ў неабходную паплечніцу і частку (адначасова) асноўнай плыні нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэння: БНФ. Таму сябрамі ТБМ Першамайскага р-на, у значнай большасці, з'яўляюцца сябры БНФ і яго неафіцыйныя прыхільнікі (вайскоўцы, настаўнікі, дзяржслужбоўцы і г.д.).

***2. Якія адносіны улады да дзейнасці раённай Рады?***

— Сустракаючы з боку афіцыйных улад непрыкрытую варожасць, ці ў лепшым выпадку, абыякавасць і іронію, рада ТБМ і яе сябры асноўнай формай дзеяння абрала агітацыю за нашу мову і прапаганду дасягненняў нашай культуры сярод насельніцтва на пікетах, сустрэчах з настаўнікамі школ (№№ 73, 115, 88 і г.д.).

У 1997 годзе, калі ў нас былі невялікія грошы ад спонсараў, арганізоўвалі падпіску шэрагу школ і дзіцячых бібліятэк на газеты "Наша слова", "ЛіМ" і інш., але ў 1998 г. гэта практыка "памерла".

Першамайская Рада ў 1998 годзе прыняла амаль 100%-ны ]дзел у пікетаваннях, якія арганізо]вала гарадская Рада ТБМ.

***3. Раскажыце пра сацыяльны склад рады.***

— Сацыяльны склад рады ТБМ Першамайскага раёна — настаўнікі (у тым ліку пенсіянеры)

— ІТР і служачыя

— ЭКС - вайскоўцы

— вучні.

У1998 годзе склад Рады пашырыўся, але не з утварэннем суполак на прадпрыемствах і, асабліва, ў школах. Больш таго, разам з пашырэннем агульнай колькасці сяброў ТБМ, распалася суполка (адзіная) у школе № 63 (7 сяброў), з якой, дарэчы, у 1998 г. звольнілася 20 настаўнікаў, нязгодных з умовамі працы і паліцэйскай арганізацыяй навучальнага працэсу (эфект новай загадчыцы РАА). Колькасць сяброў ТБМ, зарэгістрыраваных і пажадаўшы не рэгістравацца, у Першамайскім раёне каля 60-80 чалавек.

***4. Якім чынам, на Ваш погляд, ТБМ можа ўздзейнічаць на палітычнае становішча ў краіне?***

— Уздзейнічаць на палітычныя працэсы ТБМ павінна апасрэдавана праз адукацыйны механізм і выхаванне, пажадана вельмі аргументаванае, патрыятызму ці нацыяналізму. незнаёмых большасці нашых грамадзян.

***5. Якія, павінны быць прыняты рашэнні на з'ездзе?***

— На наступным з'ездзе павінна быць прынята адно рашэнне: усім патрыётам (нацыяналістам) прыняць удзел у ліквідацыі маскоўска-акупацыйнага рэжыму, у тым ліку метадамі контрпрапаганды і, пры неабходнасці і іншымі сродкамі . Гэта адзіная ўмова захавання нашага этнасу з ягонай МОВАЙ. (глядзі апошнія словы К.Каліноўскага).

***6. Якія планы Рады раёна на наступны год?***

-- Прыняць актыўны ўдзел у большасці мерапрыемстваў, якія будзе праводзіць дэмакратычны рух супраць таталітарнага рэжыму Лукашэнкі і Лубянкі.

***7. Вашы адносіны да газеты "Наша слова", якой яна павінна быць?***

-- Газета "Наша слова" паціху павінна ператварацца ў газету "Родная мова", набыць сродкі для ўтрымання ў рэдакцыі прафесійных тэхнічных супрацоўнікаў, для набыцця апаратуры камп'ютарнага набору.

Моцнага здароўя Судніку і К*, заўсёды і на вякі-вякоў - Аман!

***8. І, напрыканцы, Вашы пажаданні чытачам нашай газеты?***

-- Чытачам "Нашага слова" жадаю больш цікавіцца грунтоўнымі працамі па нацыянальных праблемах, па нацыянальна - вызваленчаму Руху (Індыя, Алжыр, Ірландыя, артыкулы Энгельса па так званаму "русскому вопросу", брашура Рассэла, "Практыка і тэорыя бальшавізму", У.Караткевіч, Біблія) і ... сардэчнае прывітанне рэгулярным чытачам: і просьба заможным чытачам выпісваць "Наша слова" на сем'і з сціплым хатнім бюджэтам.

Жыве Беларусь!

*Гутарыла Т.Антончык.*

# ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ

Снежаньскім суботнім днём у творчую майстэрню скульптара Уладзіміра Слабодчыкава завіталі госці. Былі гэта ў большасці вядомыя людзі: гісторык Мікола Ермаловіч, мастак Яўген Ціхановіч, прафесар Леанід Лыч, старшыня культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" Анатоль Белы. Мэтай гэтага візіту было ганараванне гаспадара майстэрні паводле рашэння Камітэта ўшанавання медалём "Пагоня" ( з занясеннем у Кнігу гонару "Рупліўцы твае, Беларусь"). Уладзімір Слабодчыкаў загадвае кафедрай скульптуры ў Беларускай Акадэміі мастацтваў. Працуючы ў жанры станковай скульптуры, ён стварыў шэраг цікавых вобразаў, вельмі разнабаковых па зместу і пластычным выкананні. Работы яго захоўваюцца ў музеях Менска, Масквы, а таксама ў прыватных зборах на радзіме і за мяжой. Ім створаны шэраг цікавых прапаноў помнікаў вялікім людзям Беларусі: С.Манюшку, Ф. Скарыне, В.Ваньковічу, М. Багдановічу. Апошні праект ужо знайшоў сваё ўвасабленне — у 1992 годзе помнік Максіму Багдановічу работы У.Слабодчыкава быў пастаўлены ў Рабкораўскім завулку побач з філіялам музея М.Багдановіча ў Менску. Вобраз паэта ў гэтым помніку набыў асабліва цёплае, лірычнае гучанне. Блізкім да завяршэння з'яўляецца і помнік мастаку В. Ваньковічу, яго засталося толькі адліць у бронзе і паставіць на вызначаным месцы каля дома-музея Ваньковіча ў Верхнім горадзе. Па замове Камітэта ўшанавання Уладзімірам Слабодчыкавым створаны медалі Браніслава Тарашкевіча і Ларысы Геніюш "За абарону роднай мовы".

У гэты дзень госці майстэрні пазнаёміліся з эскізамі да яшчэ аднаго помніка, работу над якім распачаў скульптар — помніка першаму народнаму артысту Беларусі, выдатнаму драматургу, рэжысёру, акцёру, кіраўніку Беларускага дзяржаўнага вандроўнага тэатра, ахвярнаму дзеячу на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння, рэпрэсаванаму ў 1937 годзе, Уладзіславу Галубку. Аўтару было цікава пачуць меркаванні і заўвагі прысутных адносна таго, наколькі ўдалае скульптурнае ўвасабленне атрымаў у гэтых эскізах вобраз знакамітага артыста, якім павінен быць гэты помнік. Такое абмеркаванне было асабліва цікавым яшчэ і таму, што адзін з гасцей, 85-гадовы мастак Яўген Ціхановіч даводзіцца легендарнаму Уладзіславу Галубку блізкім сваяком (з'яўляецца ягоным зяцем), і добра памятае, якім ён быў пры жыцці. Гэты факт сапраўды ўражвае, бо мы ўсведамляем, наколькі блізкія ад нас тыя часы і тыя людзі, што сталі ўжо нашай гісторыяй. А гэты чалавек уяўляецца нібыта звяном жывой сувязі паміж рэальным Галубком і яго несмяротным вобразам, які мае быць увасоблены ў бронзе.

Трэба сказаць, што вобраз Ул.Галубка дайшоў да нас у партрэтах, фотаздымках, іх і выкарыстоўвае майстар для стварэння свайго твора. Але ж якімі каштоўнымі з'яўляюцца сведчанні сучасніка аб тым, як гэты чалавек трымаўся, рухаўся, якое рабіў уражанне на іншых! Спадар Ціхановіч пацвердзіў, што Галубок быў высокага росту, меў моцную, мажную постаць. На вуліцы ён звычайна насіў капялюш, прычым надзяваў яго своеасабліва, набакір. Па гэтай характэрнай манеры насіць капялюш яго пазнавалі здалёк, ягоная постаць выглядала адметнай, непаўторнай.

На эскізах жа Слабодчыкава Галубок прадстаўлены з непакрытай галавой, без капелюша, бо аўтару важна было для большай выразнасці вобраза паказаць ягоны прыгожы скульптурны лоб, адухоўлены і непакорны. І ў яго гэта добра атрымалася. Тады, магчыма, капялюш павінен быць у руцэ — як характэрная, пазнавальная дэталь? І гэтая дэталь, і энергічная, унутрана дынамічная пастава артыста ў скульптурным увасабленні, знешняя пазнавальнасць і сутнасць вобраза, духоўны зарад, які ён нясе — усё гэта сталася прадметам абмеркавання, якое павінна дапамагчы скульптару ў стварэнні помніка, па якім, магчыма, не адно пакаленне беларусаў будзе ведаць славутага адраджэнца і падзвіжніка, аднаго са стваральнікаў беларускага нацыянальнага тэатра.

Пазней, ужо за гарбатай працягвалася размова пра стварэнне помнікаў лепшым людзям краіны. Нельга пераацаніць важнасці гэтай справы, бо такім чынам мы аддаем даніну павагі людзям, якія заслугоўваюць нашай памяці, спрыяем пераадоленню гістарычнага бяспамяцтва, выхаванню патрыятычных пачуццяў, аб'яднанню народа на аснове нацыянальнай ідэі. Пара ўжо ставіць пытанне аб стварэнні пантэона выдатных людзей Беларусі. Народ, які мае незалежную дзяржаву, павінен мець і ўласны пантэон. Ідэя стварэння такога пантэона нараджаецца ўжо сёння — пакуль што ў свядомасці людзей — як усвядомленная неабходнасць, як праект, які павінен прайсці шэраг стадыяў асэнсавання і падрыхтоўкі на шляху свайго ўвасаблення. Яна мусіць стаць прадметам шырокага грамадскага абмеркавання ў сродках масавай інфармацыі, прадметам шырокай дыскусіі. Дзе рабіць такі пантэон? Якія гістарычныя постаці (ад самых старажытных часоў, першых нашых князёў) павінны быць увекавечаны? Дзе браць грошы на яго стварэнне? Якім увогуле павінен быць механізм увасаблення гэтай ідэі на практыцы? Безумоўна, павінна быць створана дзяржаўная камісія па ацэнцы прадстаўленых праектаў і прызначэнні грантаў. Яшчэ раней трэба стварыць грамадскую камісію, якая можа дзейнічаць паралельна, а з цягам часу некаторыя яе прадстаўнікі маглі б папаўняць камісію дзяржаўную.

Усё гэта пакуль яшчэ — справа будучыні, а вось універсітэцкі пантэон вялікіх дзеячоў культуры ўжо мае свой пачатак - у двары Белдзяржуніверсітэту намаганнямі культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" пастаўлены помнікі Ф.Скарыне (скульптар Сяргей Адашкевіч) і М. Гусоўскаму (скульптар Уладзімір Панцялееў), якія ствараюць у прасторы паміж універсітэцкімі будынкамі асаблівую аўру, надаюць гэтаму месцу еўрапейскі выгляд.

Другая ідэя, да ажыццяўлення якой трэба будзе прыступаць ужо ў бліжэйшы час — гэта стварэнне помніка тысячагоддзю Беларусі. Прыклад падобнага помніка — створаны ў Ноўгарадзе ў 1862 годзе помнік тысячагоддзю Расеі. Гэтая ідэя добра кладзецца ў агульны план адзначэння тысячагоддзя дзяржаўнасці Беларусі, якое павінна стаць значным этапам у самаўсведамленні беларускага народа як народа дзяржаўнага, народа, які мае вялікую і слаўную гісторыю, якою можна ганарыцца.

Час раскідваць камяні і час збіраць камяні ... Пасля стагоддзяў "раскідвання камянёў" у Беларусі пачаўся час іх "збірання". Час вяртання сабе сваёй сапраўднай гісторыі, збірання "раскіданых" па свеце і ў мінулым сваіх вялікіх людзей, час, які адкрывае магчымасць усвядоміць, зразумець многае з таго адабранага, адкінутага, як сваё, крэўнае, неабходнае, убачыць сваю краіну і свой народ ва ўсёй сукупнасці і паўнаце. Працэс пайшоў і будзе працягвацца, няхай сабе і ў неспрыяльных умовах. Яго немагчыма спыніць, як немагчыма спыніць час, "як бы каму гэтага ні хацелася". Тое, чаго не хоча рабіць дзяржава (абсалютна сур'ёзна ўзяўшы курс у мінулае), робяць людзі. Ставяцца помнікі, выходзяць кнігі, газеты, часопісы, альманахі, ладзяцца імпрэзы. Усё гэта робіцца часам цаной вялікіх намаганняў, насуперак "генеральнай лініі" — тым большую яно набывае каштоўнасць, тым вышэйшую мае цану. Відаць, наша вяртанне да сябе павінна прайсці гэты перыяд — перыяд цяжкога змагання за сябе. У той час, як хтосьці ўжо канчаткова зняверыўся ("не, відаць усё ж нічога не будзе з гэтага народа і з гэтай краіны"), нястомныя рупліўцы, як той жа Анатоль Белы, як многія гісторыкі, пісьменнікі, мастакі, абаронцы роднага слова, — працягваюць рабіць рэальныя канкрэтныя справы. Тыя справы, якіх патрабуе ад іх сённяшні час: збіраць камяні і будаваць з іх сапраўдную, незалежную Беларусь.

***Святлана Багданкевіч,***
***г. Менск.***

**РЭПЕРТУАР**
**НА САКАВІК 1999 Г.**
## Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі

| | | |
|---|---|---|
| 2 аўторак , 16 аўторак | УЗЛЕТ АРТУРА УІ, ЯКІ МОЖНА БЫЛО СПЫНІЦЬ<br>трагіфарс | Б.Брэхт |
| 4 чацвер, 12 пятніца<br>20 субота | ПАВАЛІЎСЯ НЕХТА<br>фольк-жарт | У.Галубок, Л.Родзевіч |
| 5 пятніца, 11 чацвер<br>31 серада | МІСТЭР РОЗЫГРЫШ<br>гульні дарослых | С. Кандрашоў |
| 6 субота<br>21 нядзеля | БАРБАРА РАДЗІВІЛ<br>паэтычная драма | Р.Баравікова |
| 7 нядзеля<br>27 субота | РАЗВІТАННЕ З РАДЗІМАЙ<br>драма | А.Папова |
| 9 аўторак<br>23 аўторак | РЫЧАРД<br>трагедыя | У.Шэкспір |
| 13 субота<br>28 нядзеля | ЛЕКАР ПАНЯВОЛІ<br>электычная камедыя | Ж.-Б.Мальер |
| 14 нядзеля, 26 пятніца<br>30 аўторак | АПОШНЯЯ ПАСТРАЛЬ<br>Фантастычны трылер-кліп па матывах аповесці А.Адамовіча | М. Дзінаў |
| 17 серада<br>25 чацвер | прэм'ера БОТ І ЯГО ШКАРПЭТКА<br>фарс - абсурд | Г.Ахтэрнбуш |

Мастацкі кіраўнік тэатра - заслужаны дзеяч мастацтваў РБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валеры МАЗЫНСКІ
Пачатак спектакляў а 19 гадзіне
Вул.Крапоткіна, 44 Тэл. 234-60-08

**РЭПЕРТУАР НАЦЫЯНАЛЬНАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ Я.КУПАЛЫ.**
**з 1 - 31 сакавіка 1999 года**
### Вечар пачатак 19.00

| | | |
|---|---|---|
| 1, 3, 19, 20 | прэм'ера "Піраміда Хеопса"<br>драма у 2-х дзеях | Ю.Ломанцаў |
| 4, 5 | "Ідылія"<br>пастараль у 2-х дзеях | В. Дунін-Марцінкевіч |
| 7 | Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча<br>дывертысмент у трох карцінах | Е.Міровіч |
| 12, 13, 14 | "Князь Вітаўт"<br>легенды сівой даўніны | А.Дудараў |
| 18, 22 | "Вечны Фама"<br>"Камарылля" у 2-х дзеях | Ф.М.Дастаеўскі |
| 21 | "Тапалёвая завея"<br>камедыя ў 2-х частках | М.Задорнаў |
| 24 | "Ромул Вялікі"<br>гістарычна недакладная камедыя ў 2-х дзеях | Ф. Дзюрэнмй |
| 25 | "Паўлінка"<br>камедыя ў 2-х дзеях | Я.Купала |
| 26 | "Лес"<br>камедыя ў 2-х дзеях | А.Астроўскі |
| 28 | "Памінальная малітва"<br>Камедыя ў 2-х частках па матывах твораў Шолом-Алейхема | Р.Горын |
| 29 | "Ажаніцца — не журыцца"<br>беларускія вадэвілі ў 2-х частках | Далецкія, М.Чарот |

### Ранішнія, пачатак у 11.30

| | | |
|---|---|---|
| 7, 26 | "Пунсовая кветачка"<br>казка ў 2-х дзеях | І. Карнавукава<br>Л.Браўсевіч |
| 14 | "Князь Вітаўт"<br>легенды сівой даўніны | А.Дудараў |
| 25 | "Паўлінка"<br>камедыя ў 2-х дзеях | Я.Купала |
| 28 | "Карлік нос"<br>музычна - пластычнае відовішча | В.Гауф |
| 29 | "Ажаніцца - не журыцца"<br>беларускія вадэвілі ў 2-х частках | Далецкія, М.Чарот |

### Малая сцэна, вул. Энгельса, 12

**Пачатак у 19.30**

| | | |
|---|---|---|
| 1, 7 | "Чароўная ноч"<br>сон без антракту | С. Мрожак |
| 6 | "Дагарэла свечачка"<br>маналог актрысы | А.Петрашкевіч |
| 10 | "Лэдзі Кронкі і мышы"<br>гісторыя ўзаемаадносін у 2-х частках | Д. Патрык |
| 15, 27 | прэм'ера "Тут жывуць людзі" | А.Фугард |
| 22, 25 | "Крывавая Мэры"<br>вечаровы кактэйль у адной дзеі | Дэм. Бойка |





Доктар гістарычных навук, Анатоль Грыцкевіч

# Зноў Кастусь Каліноўскі — "замежны агент"

Апошнім часам пачаўся ідэалагічны наступ кіраўніцтва Беларусі на нацыянальныя святыні. Ад самага пачатку прэзідэнцтва А.Лукашэнкі яго дарадцы з маскоўскай ФСБ-КГБ паступова і паслядоўна накіроўваюць дзеянні прэзідэнта на ліквідацыю беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай гісторыі з мэтай разбурэння беларускай дзяржаўнасці і далучэння Беларусі да Расеі.

"Прачнуліся" і савецкія гісторыкі, якія прыстасоўваюць гісторыю Беларусі да палітычных мэтаў расейскіх спецслужбаў па ліквідацыі Беларускай дзяржавы. Прыкладам гэтага з'яўляецца новы падручнік па гісторыі Беларусі для ВНУ пад рэдакцыяй гісторыка КПСС прафесара Я. Новіка.

Менавіта ў гэтым падручніку "выкрываецца" дзейнасць нацыянальнага героя беларускага народа Вікенція Канстанціна Каліноўскага як прадстаўніка польскіх колаў на Беларусі. Адпаведна ўсхваляецца дзейнасць віленскага генерал-губернатара М.М. Мураўёва — вешальніка "на карысць" беларускага народа.

"Новы" падыход да гісторыі Беларусі з мэтай развянчання нацыянальнага героя прывёў аўтараў падручніка да таго, што яны адкінулі ўсе дасягненні беларускай савецкай гістарыяграфіі, якая вызначыла ролю К.Каліноўскага як нацыянальнага героя і рэвалюцыянера - дэмакрата (гл. Гісторыю БССР, т.1, 1954; Гісторыю БССР, т.1,1961; Гісторыю Беларускай ССР, т.2,1972, Нарысы гісторыі Беларусі, ч.1,1994г. і шматлікія манаграфіі, перш за ўсё А. Смірнова і Г. Кісялёва, і артыкулы). Быццам бы гэтага ўсяго не было. У навуцы прынята спачатку абвяргаць навуковыя палажэнні вельмі аргументаванымі сваімі доказамі. "Не заўважаць", што зроблена навукоўцамі дагэтуль, для наступнага навукоўца проста непрыстойна.

Аўтары падручніка вярнуліся да літаратуры царскіх часоў, цалкам паўтараючы тэзісы больш чым стогадовай даўнасці з пункту гледжання расейскага царызму. Услед за савецкімі гісторыкамі новага ўжо тыпу такія ж антынавуковыя погляды пачалі распаўсюджваць і газеты.

Так, у беластоцкай газеце "Ніва" (№ 3, 17 студзеня 1999г., с.4) змешчаны артыкул Канстанціна Масальскага "Каліноўскі і нацыянальная ідэя", дзе спасылаючыся на выбраныя месцы з афіцыйных дакументаў К.Каліноўскага, аўтар заключае, што "сам Канстанцін Каліноўскі выказаўся, што ён пастаўлены польскім урадам" і што "ў дзеяннях Каліноўскага нельга знайсці беларускую нацыянальную ідэю".

Можа не варта было б звяртаць увагі на гэты артыкул? Аднак відавочна, што ідзе наступ як у Беларусі, так і за яе мажамі менавіта на беларускую нацыянальную ідэю.

Хочацца нагадаць напрацаванае беларускімі гісторыкамі. Аўтар раздзела пра паўстанне 1863г. ў Беларусі доктар гістарычных навук М.В.Біч у кнізе "Нарысы гісторыі Беларусі" (ч.1, с.321-322), прыводзіць словы афіцыйнага гісторыёграфа паўстання 1863 г. у беларуска-літоўскіх губернях генерал-маёра Васіля Ратча, што К.Каліноўскі падзяляў федэрацыйныя тэорыі "Колокола" і "настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасці Літвы" (Літвою тады называліся Віленская, Гарадзенская, з Берасцем, і Менская губерні, а Беларусь — Віцебская, Магілёўская, з Гомелем, губерні, часам і Смаленская — А.Г.), імкнуўся "канчаткова пазбавіцца ад варшаўскай апекі". Па звестках В.Ратча, варшаўскі (паўстанцкі - А.Г.) урад павінен быў атрымаць ад Каліноўскага "паведамленне, што і Літва і Беларусь — самастойная дзяржава". Паказальна, што аналагічныя ацэнкі пазіцый К. Каліноўскага па аграрнаму і нацыянальнаму пытаннях выказаны і некаторымі дзеячамі паўстання (Ю.Яноўскі, Я. Гейштар і інш.)".

Пра дзейнасць К. Каліноўскага як сепаратыста, які не падпарадкоўваецца варшаўскаму паўстанцкаму ўраду і намагаецца самастойнасці для Літвы-Беларусі даносіў у час паўстання ў Пецярбург і жандарскі афіцэр з Менскай губерні.



А народ уяўляе Каліноўскага такім. *Пано ў фае СШ № 15 г. Ліда. Сучасны выгляд. Пад бел-чырвона-белым сцягам- К. Каліноўскі, Т. Нарбут, Я. Драздовіч.*

Паўстанне 1863 г. у Польшчы, Беларусі і Літве ішло ў адным рэчышчы. Асяродак кіраўніцтва быў у Варшаве, аднак ад самага пачатку ў сваёй дзейнасці кіраўнічы орган паўстання ў Вільні дзейнічаў самастойна, асабліва ў тыя перыяды, калі ім кіраваў Вікенці Канстанцін Каліноўскі.

Спробы недасведчаных савецкіх гісторыкаў ці аматараў у прэсе падважыць дасягненні беларускай гістарыяграфіі ( у тым ліку і савецкай) дарэмныя. Без аргументаў (або з падабранымі па-бальшавіцку, зручнымі для сябе аргументамі) яны наўмысна спрабуюць закрэсліваць беларускі нацыянальна-вызвольны рух на чале з Каліноўскім.

А яшчэ прыдворныя гісторыкі і іх цяперашняе ўрадавае кіраўніцтва ніяк не могуць (як і раней царскія губернатары і чыноўнікі) дараваць Вікенцію Канстанціну Каліноўскаму яго словы з "Ліста з-пад шыбеніцы": "**Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжо не будзе**".

*12 лютага 1999 года.*

# *"Ідзіце шляхам мядзведзічан, дамагайцеся сваёй роднай беларускай школы..."*

6 лютага 1999 г. Мядзведзіцкая сярэдняя школа Ляхавіцкага раёна святкавала 130-ю гадавіну свайго існавання.

Пазнаёмімся з адной са старонак багатай гісторыі школы. Яна датуецца далёкім 1918-м годам. Цяжкія часіны перажывала тады Беларусь. Край быў заняты нямецкімі акупантамі. Але жыццё працягвалася. Адной з задач, якія патрабавалі вырашэння, было навучанне дзяцей, адчыненне школ. У Мядзведзічах і іншых навакольных вёсках пераважала каталіцкае насельніцтва. І гэта скарыстоўвала "Польская Рада Зямлі Менскай", арганізацыя прапольскага кірунку, якая імкнулася падпарадкаваць свайму ўплыву і Слуцкі павет (да яго належалі Мядзведзічы і навакольныя вёскі).

У канцы лета, калі прыйшла пара брацца дзецям за навуку, сяляне вёсак Мядзведзічы, Куршынавічы, Лапацічы, Русінавічы, Гайнін на сваіх сходах прынялі рашэнні — прыгаворы аб адчыненні беларускіх школак, запрашэнні для выкладання вучыцялёў-беларусаў, выхаванні дзяцей у нацыянальным духу. Бацькоўскія Апякунчыя Рады прыкладалі намаганні, каб выканаць рашэнні (прыгаворы) сходаў.

Дзякуючы дапамозе настаяцеля Мядзведзіцкага касцёла ксяндза Хрулевіча, прыхільніка беларушчыны, удалося адчыніць беларускія школы ў Мядзведзічах і Гайніне. Паслалі ў Менск чалавека, каб пашукаў настаўнікаў. І яны знайшліся. У Мядзведзічах пачала працаваць Паўліна Мядзёлка, у Гайніне — яе брат Казімір. Ён працаваў у прыватнай школе.

Імя адной з рамантычных дзяячак беларускага Адраджэння вядома многім. Паўліна Вікенцеўна Мядзёлка — знаная змагарка за нацыянальную ідэю, імкнулася на працягу ўсяго жыцця праз культурна-асветніцкую дзейнасць паслужыць сваёй Айчыне. Яна была першай выканаўцай галоўнай ролі бессмяротнай купалаўскай "Паўлінкі". Там, дзе з'яўлялася Мядзёлка, заўсёды звінела песня, гучала беларуская мова, ставіліся спектаклі.

Паўлінка шчыравала ў школе, а пасля заняткаў ішла або ехала ў вёскі, сустракалася з сялянамі, вяла гутаркі, чытала творы беларускіх аўтараў, дэкламавала вершы. З вялікім замілаваннем яна слухала народныя песні, якія напявалі ёй бабулі. Гэта былі старыя мелодыі, а новыя Паўліна развучвала з маладымі. Рыхтавалі і спектакль. На рэпетыцыі збіралася моладзь з навакольных вёсак. Са сваімі вучнямі вечаровых курсаў прыходзіў і брат Казік.



*Паўліна Мядзёлка. 1921 год.*

На Каляды і Запусты падрыхтаваны спектакль адбыўся. І не толькі ў Мядзведзічах. Пастаноўкі суправаджаліся хорам. І слухачы і акторы былі ў захапленні. Гэта быў ужо 1919 год.

Але вернемся яшчэ да восені 1918 г.

У земскія школы часта наведваўся прадстаўнік "Польскай Рады Зямлі Менскай" памешчык Сіняўскай воласці Густаў Свяцніцкі, які люта ненавідзеў усё беларускае. Падчас аднаго з візітаў ён загадаў Мядзёлцы зацерці надпісы на беларускай мове. Забараніў таксама ("грозячы пальцам") праводзіць і гутаркі з сялянамі.

Праз два дні пасля таго інспектавання грамадзяне Мядзведзіцкай воласці сабраліся ў памяшканні Мядзведзіцкай народнай земскай школы, дзе вялі гаворку пра кірунак і стан народнай асветы. Абмеркаваўшы ўсе пытанні, грамада прыняла пастанову -прыгавор, ад чытавання якой немагчыма ўстрымацца:

***"...Мы беларусы-каталікі, бывшыя пасынкі Масковіі, знаходзімся пад непажаданай апекай польскіх паноў, а таму аднагалосна прыгаварылі:***

***Пратэставаць процi апекі польскай Рады і прасіць Слуцкую павятовую земскую ўправу:***

***1) калі памешчык Сіняўскай воласці Густаў Свяцніцкі запраўды з'яўляецца апекуном школ у Мядзведзіцкай воласці, яго з гэтага абавязку асвабадзіць і даць нам права выбару асобы на гэта мейсца;***

***2) калі ён прысвоіў сабе гэта самавольна, абвясціць яму праз міліцыю не бываць больш у нашай воласці, не ачмучываць наш народ і пацягнуць яго да адказнасці за самазванства.***

*Сельскі староста Францішак Калясінскі. Прысутныя грамадзяне (125 подпісаў)"*

Аб усім расказалі ў сваіх допісах у газету "Беларуская думка" самі настаўнікі: спачатку Казімір Мядзёлка (за подпісам Глыбачанін), а затым Паўлінка ў артыкуле "Змаганне за школу" (за подпісам П-нка) у 1919 годзе. Свой артыкул яна скончыла такім заклікам: "*Дык вось, грамадзяне беларусы, ідзіце шляхам Мядзведзічан і баранецеся ад сілай навязаных чужацкіх школ, дамагайцеся сваёй народнай беларускай школы*".

Праца, якую праводзіла Паўліна Мядзёлка і яе брат, пакінулі след. "Кожны селянін ведае, кім ён ёсць", — адзначыў аўтар допісу.

Перачытаўшы напісанае 80 гадоў таму, нарадуемся як за тых, хто ўмеў адстойваць свае правы, так і за тых, хто нам данёс вестку аб далёкіх падзеях.

*З найлепшымі пажаданнямі калектыву настаўнікаў і вучняў юбіляркі-школы Аляксандра Гесь.*

# Абразкі ад Уладзіміра Содаля

## ВАЛАГОДЧЫКІ

На зыходзе дваццатае стагоддзе, а на Беларусі ўсё яшчэ не сціхаюць спрэчкі: беларуская мова самабытная ці гэта толькі дыялект, гаворка расейскай мовы. Калі такога ж погляду на нашу мову трымаюцца многія чыноўнікі разам з прэзідэнтам. Невыпадкова ж, на нашай тэлевізіі ды і радыё арганізаваны шэраг рэпартажаў і перадач якраз з Волагды, Валагодчыны. Галоўная думка гэтых рэпартажаў тая ж: між Беларуссю і Расеяй, прынамсі, Валагодчынай няма асабліва ніякай розніцы — адны окаюць, другія акаюць. І толькі ўсяго. І гэта гаворыцца пасля таго, як нашы энцыклапедысты паклалі нам на стол перавыдадзены Статут Літоўскі — статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года выдання "а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася", пасля таго, як Карскі паклаў нам на стол шматтомных "Беларусаў", пасля таго, як мы маем гістарычную энцыклапедыю, тлумачальныя слоўнікі, Закон аб мовах, гістарычную граматыку, сваю літаратуру.

Што можна сказаць з гэтай нагоды пра ўсіх валагодчыкаў? Ці то ім ужо зусім розум засланіла — і яны пра белае кажуць чорнае і грукаюцца ў адчыненыя дзверы, ці то яны нічога не ведаюць пра беларусаў і не хочуць ведаць, прынамсі хоць тую спадчыну, якая тут згадана, ці то гэта ўжо дае праяву іхні прыродны забетанаваны генны шавінізм? Інакш гэтыя погляды і не патлумачыш.

Да Валагодчыны беларусы маюць даўнюю цікавасць і спазнаюць яе здаўна. Прыкладам, у 1871 годзе наведаў Валагодчыну, Волагду і вядомы на Беларусі паэт і юрыста Францішак Багушэвіч. І пражыў ён там не дзень і не два, як нашы тэарэтыкі з радыё ды тэлевізіі ці з дэпутацкага корпусу, а амаль цэлы год і меў часу спазнаць той край і яго мову. Ды толькі ў сумленнага чалавека, чалавека крыштальнай душэўнай чысціні, уражанні і думкі пра нашу мову пасля наведання Валагодчыны склаліся іншыя. Якія? Яны агульна вядомыя. Але для тых, хто блукае ў валагодскім "оканні" і шукае там для нас моўнай альтэрнатывы, "родниковую Русь", нагадаю гэтыя словы. Вось яны: "Мова наша ёсць такая людская, і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо якая іншая". І сказаў гэта чалавек, які добра ведаў мову французскую і нямецкую і, напэўна ж, валагодскую. Дык колькі ж можна грукацца ў адчыненыя дзверы, а белае выдаваць за чорнае? І навошта?!

## ДАНІЕЛЬ — ПУПЛІК ЗЯЛЁНЫ

Сярод дачных дзяцей вылучаўся адзін — быў ён смуглявы. Шорсткія валасы дробна кучараваліся. Вочы ненатуральна блiскалі бялкамі.

— Што за хлопчык? — пацікавіўся я.

— Гэта Даніель! — сказалі мне. — Мама яго беларуска, а тата з Кеніі ці Адзісабебы ...

Я пачаў разглядаць хлопчыка, думаць, як ён пачувае сябе тут, сярод беларускіх дзяцей, пад нашым сонцам, сярод нашай прыроды. Ці заўсёды яму ўтульна тут? Ці адчувае ён на сабе зацікаўленыя погляды? Было відавочна, што кенійскія гены перамагаюць у ім, пераважаюць, не зусім сугучныя з нашым менталітэтам, нашай прыродай, што ён падсвядома сумуе па бацькоўскіх краях. Дагэтуль гуляўся з маімі ўнукамі, гуляўся з мяглой. Зашчаміў яе між ногі, весела бліскнуўшы бялкамі вачэй сказаў:

— Сейчас полечу, как Баба Яга!

А я яму на гэта:

— А пра Бабу Карготу чуў?

— Какую ещё Бабу Карготу?

Я пачаў яму тлумачыць, хто такая Баба Каргота, што яшчэ ёсць: Баба Смаркатая. Яна ў студнях жыве, дзяцей цягне да сябе, калі яны перагінаюцца праз цемру, праз край студні ... А яшчэ ёсць на свеце і Баба Шлакатуха — жыве ў жыце. Дзяцей, якія ходзяць у жыта, дратуюць яго, можа да смерці зашлакатаць, заказытаць...

Слухаў гэтыя мае байкі Даніэль, слухаў дый раптам і кажа:

— А что это вы всё по-белорусски, да по-белорусски... Что я ёшё должен вас понимать по-белоруски, что ли?

Вось табе і маеш! Стараўся я, стараўся і дастараўся, дагаварыўся: хлопчыку гадоў шэсць, пад сем — на восень у школу пойдзе, але ён, гэты кенійска — беларускі мутанчык, ужо зразумеў, што жывучы на Беларусі, можна і нават абавязкова трэба абурацца на тых, хто мае адвагу гаварыць па-беларуску, што такая з'ява у нас лічыцца ледзь не вышэйшай праявай, як бы гэта сказаць, "культурносці".

Шмат за сваё жыццё давялося мне выслухаць самых розных зняваг за родную мову. І вось яшчэ дачакаўся і Даніельчыка. І ён ужо, гэты пуплік зялёны, не паспеў як след адскочыць ад зямелькі, якая пусціла яго ў свет, спраўна налаўчыўся абурацца і на беларускую мову, і на ўсіх, хто на ёй гаворыць. Што гэта за вырак такі жыве на Беларусі, які гэтак лёгка перадаецца не толькі сваім выпладкам, але людзям інтэрнацыянальнага вытоку, народжаным на Беларусі?!

## НУ І ДУРАНЬ!..

Адзінаццатага лістапада 1998 года. Метро, станцыя Ўсход. 16.30 пасля поўдня. Апошні вагон, апошнія дзверы. Ля гэтых дзвярэй пры кабіннай сценачцы таўкуцца два жэўжыкі, два непаседы. Гадоў ім так па сем - восем. Абодва ў вязаных, як у гномікаў, шапачках. Стаяць і ўсё нешта лапочуць адзін аднаму, шчабечуць, шчыруюць; ручкамі, як анёлчыкі крылцамі, махаюць. Раптам машыніст метроўскага цягніка абвясціў:

— Асцярожна! Дзверы зачыняюцца! Наступная станцыя Маскоўская ... Абвешчана гэта, як вядома, было па-беларуску.

Гэтая абвестка змяніла і гаворку хлопчыкаў. Адзін з іх і кажа:

— А ты вучыш беларускую мову?

— Не! — адказвае другі.

— Ну і дурань, што не вучыш! — кажа першы.

— А мне мама і тата не дазваляюць, пярэчаць — бароніцца другі.

— А мама і тата твае такія ж, як і ты, — мудра заключыў сваю гаворку першы.

## Я

У вашай кватэры зазваніў тэлефон. Вы паднялі трубку, прыклалі яе да вуха і падалі свой голас. Звычайна, падняўшы трубку, мы кажам: "Алё ці ало!" — як хто, як каму спадручней. Мне ж гэтае галёканне ці алёканне чамусь не зусім смакуе, не зусім падабаецца. Звычайна на званок я бяру трубку і кажу сваё кароткае і лаканічна цвёрдае "Я". Кажу гэтае сваё "Я" важка, з годнасцю.

Магу на званок адгукнуцца і словамі: "Калі ласка!", ці "Калі ласка, я Вас слухаю!". Годна навучыў на тэлефонныя званкі адказваць і сваіх малых унукаў. Сержык, прыкладам, пачуўшы званок, гаворыць у трубку: "Калі ласка, Сержык слухае!" Такая ж рэакцыя на званок і ў меньшанькага — Максімкі. Ён таксама, пачуўшы званок, кажа свайму тэлефоннаму сумоўцу: "Калі ласка, Максімка слюхае!"

Усяляк можна разнастайніць першыя словы на позву тэлефоннага званка. У гэтым і багацце нашае мовы, і выява свайго "Я". Але як мне здаецца, самым натуральным словам будзе слова з адной літары — "Я". Я — асоба. Я— постаць! Я — гэта павага да сябе, да сваёй пярсоны. Паміж іншым, паводле філалагічнай навукі фанэма "Я" найстаражытная. З яе пачалася мова. З гэтым гукам да нашага старажытнага продка прыйшло ўсведамленне сябе як асобы. Гук стаў найменнікам. Ад гэтага я — і нашы Янкі, Яны, Яніны, Янукі. Прыгадваецца адзін цікавы момант. Неяк адну зіму жыў у Менску брат Якуба Коласа — вядомы дзядзька Юзік. Аднаго разу мы з Генадзем Тумасам — для тых, хто не чуў пра Генадзя Тумаса, тлумачу: Генадзь Тумас — паэт — завіталі да Коласавага брата на яго мінскую кватэру. Дзядзька Юзік быў у другім пакоі. Генадзь праз увесь пакой гукнуў:

— Дзядзька Юзік!

Дзядзька Юзік на гэты гучны зварот адгукнуўся вельмі лаканічна:

— Я !!!

Але гэтае "Я" прагучала ў яго гэтак глыбінна, што мне і зараз чуваць ягоны голас: годны, спаважны. Пэўна, з тае пары і я на тэлефонныя званкі ў хату замест звыклага "алё" ці "ало" кажу сваё "Я" — гэтак сама годна і спаважна.

## ЧАЛАВЕК У ВЫШЫВАНЦЫ

Я задумаў напісаць шэраг невялікіх абразкоў. Гэта будзе, на маю думку, найцікавае назіранне з жыцця нашых вышыванак і іх носьбітаў. Ужо маю цэлую падборку здымкаў людзей у вышыванках. І не абы-якіх! І што цікава — ў кожнай вышыванкі, гэтак жа, як і ў яе носьбіта, свая гісторыя, свой лёс. Вельмі часта непаўторны, кранальны. А адзін момант з гісторыі вышыванак навёў мяне нават на думку крамольную.



**Уладзімір Содаль на фоне свайго тэлевізійнага дома.**
*Здымак Анатоля Каляды.*

Як вядома, у новых беларускіх пашпартах скасавана графа нацыянальнасць. Ну што ж, скасавалі дык скасавалі. Хай сабе скасоўваюць. А мы, калі гэтага вельмі захочам, можам яе і кампенсаваць. І што самае цікавае – без нейкай асаблівай патугі, без усялякага канфлікту з уладаю. А як? Якім чынам? А вось якраз здымачкам у вышыванцы. Калі кожны з нас прапануе ў свой новы пашпарт здымачак у вышыванцы, гэтым ён не толькі аздобіць згаданы дакумент сваёй падабізнай, але яшчэ нібы адновіць тую страчаную графу. Здымак у вышыванцы якраз усім скажа і пакажа, што ўладальнік гэтага пашпарта ніхто іншы як беларус.

Дык што: мо паспрабуем? Некаторыя ўжо гэта здагадаліся зрабіць. То можа ўсім узяць з іх прыклад? Толькі не марудзьма!

## ЦЯЖКІЯ НАДПІСЫ

Не дзівіся, чалавеча! На Беларусі бываюць і такія надпісы. Яны надараюцца такія цяжкія, што іх не вытрымліваюць нават самыя грунтоўныя падмуркі. А гэта, як вядома, пагражае разбурэнню будынкаў. Тады на Беларусі, каб пазбегнуць разбурэнняў, такія надпісы збіваюць. І больш нічога не збіваюць, толькі надпісы, асабліва, калі яны беларускія.

Гэтак, скажам, збілі вымураваны надпіс-назву ў канцы васьмідзесятых гадоў з франтону Дзяржаўнага Мастацкага музея, што на вуліцы Леніна беларускае сталіцы.

На пытанне цікаўных, чаму так зрабілі, чаму збілі надпіс, які быў запраграмаваны архітэктарам, так і патлумачылі: "Будынак дае трэшчыны і для апалёгкі вагі ягоных сценаў было вырашана, збіць згаданы надпіс ..".

А надпіс той быў вядома ж, па-беларуску. І жыць бы яму гэтульki ж, колькі наканавана жыць самому будынку, даносячы да новых пакаленняў людзей хоць так беларускае слова. А вось гэта якраз камусь і муліць. І надпіс той з сатанісцкай радасцю збілі, каб ён ніколі і нікому не нагадваў, што на гэтай зямлі была калісь свая мова. А калі гэта не так, то як яшчэ гэта патлумачыць?! Надпіс той нікому, здаецца, не замінаў. Быў ён высока-высока, але і да яго дабраліся

... Спазнаюць жа вучоныя па наскальных пісьмёнах, якія і дзе народы жылі. Хай бы і гэты надпіс на мастацкім музеі іпоў бы ў стагоддзі, тысячагоддзі, распавядаў пра нас з вамі, пра наш час нашу эпоху і нашу мову. Дык не! Збілі! Каб вас паралюш паразбіваў!

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 15. 02. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 235.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
*Цана ў розніцу:* 5 000 руб.